

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 36 (623) | 1 КАСТРЫЧНІКА 2003 г.


## ТБМ дбае пра гістарычную спадчыну

**Спадару У. Н. Дражыну,**
**Намесніку прэм'ер-міністра**
**Рэспублікі Беларусь.**
**220010 г. Мінск, вул. Савецкая, 11,**
**Дом Ураду.**

**Паважаны Уладзімір Несцеравіч!**

Сяброў ТБМ непакоіць гаротны стана шмат якіх помнікаў беларускай гісторыі і культуры, а таксама іх далейшы лёс.

У першую чаргу звяртаем Вашую ўвагу, што Міністэрства культуры раптоўна спыніла фінансаванне рэстаўрацыі ўнікальных фрэсак 12 ст. у інтэр'ерах **Спаса-Праабражэнскай царквы** Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку. З запланаваных 20 млн. рублёў у пачатку года выдзелілі толькі каля 5 млн.

Справа ў тым, што ў Полацку беларускія рэстаўратары на чале з Уладзімірам Ракіцкім у апошнія гады зрабілі адкрыцці сусветнай значнасці, але пра іх маўчаць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, што не робіць ім гонару.

Яшчэ болей нас непакоіць лёс славутага **Лідскага замка** 14 ст., дзе ўжо некалькі год не вядзецца рэстаўрацыя, і зробленае раней пакрысе разбураецца. Былы міністр культуры сп. Сасноўскі і сёняшні міністр сп. Гуляка не раз абяцалі на старонках прэсы, што з наступнага году сродкі будуць выдзелены і работы зноў пачнуцца. Але, як кажуць, абяцанага тры гады чакаюць, а між іншым сёлета можна адзначыць 680 год з часу будаўніцтва замка ў Лідзе.

Таму мы просім Вас зрабіць усё магчымае, каб выправіць становішча з аднаўленнем вышэйзазначаных помнікаў нашай гісторыі і культуры.

З павагай
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

---

*17.09.2003 г.*

**ГА " Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

**Аб фінансаванні аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны**

Па даручэнні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21 жніўня 2003 № 05/535-104 Міністэрствам культуры разгледжана пытанне фінансавання работ па рэстаўрацыі **Лідскага замка** і фрэсак у інтэр'ерах **Спаса-Праабражэнскай царквы** Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра ў г. Полацку.

У бягучым годзе згодна з зацверджанай Дзяржаўнай інветыцыйнай праграмай было ўключана фінансаванне рэстаўрацыі фрэскавага жывапісу ў Спаса-Праабражэнскай царкве ў аб'ёме 25 млн. руб.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 чэрвеня 2003 № 225 "Аб зацвярджанні Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 2003 год" скарочаны аб'ёмы асігнаванняў на дзяржаўныя капітальныя ўкладанні. У пералік выключаных аб'ектаў увайшла і дадзеная гісторыка-культурная каштоўнасць.

У цяперашні час Міністэрствам культуры накіраваны ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь праект ліста Кіраўніку дзяржавы з просьбай даць згоду на выдзяленне і выкарыстанне ў 2003 годзе з рэзервовага фонда Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сродкаў у аб'ёме 20 млн. рублёў на працяг работ па рэстаўрацыі жывапісу.

Пры фармаванні праекту плана на 2004 год Міністэрствам культуры прадстаўлены прапановы па фінансаванні работ на аб'екце ў аб'ёме 50 млн. рублёў.

У перыяд 2000-2001 гг. за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту была прафінансавана распрацоўка праектнай дакументацыі на першачарговыя супраць-аварыйныя работы па Лідскаму замку. Пры фармаванні Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 2004 год у Міністэрства эканомікі ўнесена прапанова аб выдзяленні 30 млн. рублёў на далейшую распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі па піраста-саванні замка пад сучасныя патрэбы горада. У той жа час, прымаючы да ўвагі факт штогадовага скарачэння расходаў на правядзенне рэстаўрацыйных работ за кошт рэспубліканскага бюджэту з-за яго дэфіцыту, кіруючыся артыкулам 87 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны" і згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" лічым, што правядзенне работ на гісторыка-культурных каштоўнасцях на ўмовах долевага ўдзелу, ствараючых належныя ўмовы ў справе захавання спадчыны, можа і павінна таксама ажыццяўляцца за кошт сродкаў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, на тэрыторыі якіх знаходзяцца каштоўнасці.

Канчаткова пытанне аб магчымасці выдзялення асігнаванняў на правядзенне работ на пералічаных аб'ектах будзе вызначаны пасля давядзення Міністэрству культуры паказчыкаў па аб'ёмах фінансавання на 2004 г.

**Намеснік Міністра В. К. Гедройц.**

---

## ПАСТАНОВА

**Лідскай гарадской рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**

1. З 1-га кастрычніка 2003 года прыступіць да збору подпісаў жыхароў г. Ліды пад зваротам да Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь аб фінансаванні завяршэння рэстаўрацыі Лідскага замка іператварэнні яго ў турыстычна-культурны цэнтр горада Ліды.
2. Прасіць рэспубліканскую Раду ТБМ падтрымаць ініцыятыву Лідскай гарадской арганізацыі і аказаць садзеянне ў правядзенні збору подпісаў за завяршэнне рэстаўрацыі Лідскага замка на тэрыторыі ўсёй Беларусі.

5. 08. 2003 г.

**Старшыня Лідскі гарадской рады ГА "ТБМ імя Ф. Скрыны" С. Суднік.**

---

# *Вяшчун славы і волі*

## 180 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі

Уладзіслаў Сыракомля (сапр. Людвік Кандратовіч) - беларускі паэт-гуманіст, пісьменнік, публіцыст.

Нарадзіўся 29 верасня 1823 года ў фальварку Смольгаў Бабруйскага павету Менскай губерні (зараз Любанскі раён Менскай вобласці). Рос ў многіх месцах Меншчыны, дзе бацькі арандавалі зямлю. Вучыўся ў Нясвіжскай і Навагрудскай дамініканскіх школах. Працаваў у канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. Арандаваў маёнткі на Гарадзеншчыне. Друкаваўся ў віленскім часопісе "Атэнэум".

Акрамя вершаў, ён - аўтар таксама шэрагу празаічных краязнаўчых і публіцыстычных твораў.

Стыль Сыракомлі - стыль народных гутарак, стыль "вясковага лірніка". Сыракомля адзін з закладальнікаў народных традыцый у беларускай літаратуры, якія не згаслі і да сёння.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**Уладзіслаў Сыракомля ў залучанскі перыяд жыцця. Афорт К. Русецкага. Пачатак 50-х гадоў XIX стагоддзя.**




**Мемарыяльная дошка на гонар Уладзіслава Сыракомлі ў Нясвіжскім фарным касцёле. Мастак А. Прушыньскі, Варшава.**



**Лідскі скульптар Рычард Груша працуе над памятным каменем Уладзіславу Сыракомлю для ўстаноўкі на радзіме песняра ў вёсцы Смольгаў Любанскага раёна Менскай вобласці 29.09.2003 г.**

# Як я асвойваў беларускую мову?

***Святлана, выкладчыца музыкі***

Беларуская мова ніколі не была для мяне чужой ці незразумелай, бо для мяне гэта мова майго дзяцінства і часткова – адукацыі. Таму я, можна сказаць, не мела (як гэтак званыя кніжныя беларусы) асаблівых праблемаў з беларускім вымаўленнем ды сінтаксам. Але часы татальнай русіфікацыі, доўгае існаванне ў суцэльным расейскамоўным асяроддзі, не прайшлі, вядома, без стратаў. Калі я ўсвядоміла неабходнасць карыстацца роднай беларускай мовай ды займела такое жаданне, то не адразу гладка тое пайшло. Не было натуральнай, непасрэднай сувязі паміж здуменнем і маўленнем, бо думала я па-расейску, а таму мусіла ўвесь час рабіць сінхронны пераклад, падшукваць словы і, вядома ж, не заўжды хутка і ўдала іх знаходзіла. Патрабавалася практыка, трэніроўка, а для гэтага – адпаведныя ўмовы, асяроддзе. Шмат хто з гэтага робіць праблему, што ж да мяне, то я вырашыла яе элементарна-проста: пачала размаўляць па-беларуску з уласным мужам, а таксама са сваімі блізкімі (паступова і яны ўсе пад маім уплывам пераходзілі на беларускую мову), пасля – з сябрамі і знаёмымі, сярод якіх знайшлося шмат беларускамоўных. Яны самі знайшліся, калі толькі я зацікавілася беларушчынай, адраджэнскім рухам. Тут варта было толькі зачапіцца – і кола пакацілася, перада мной расчыніўся цэлы свет: вечарыны, лекцыі, семінары, канферэнцыі, сустрэчы, прэзентацыі, святы, вандроўкі, удзел у дзейнасці розных арганізацыяў, клубаў і да т.п. Усё гэта стымулявала хуткае авалоданне вуснай, гутарковай беларускай мовай. Такім чынам вырашалася праблема пераводу сваёй беларускай мовы з пасіўнага стану ў актыўнае карыстанне, а таксама ўзбагачэнне яе, развіццё і ўдасканаленне. Вырашэннем гэтай задачы я занялася мэтанакіравана, скарыстоўваючы ўсе даступныя мне сродкі. Тут можна было б вылучыць наступныя віды дзейнасці:

1. Чытанне. Пашырыла аб'ём беларускай літаратуры ў сваім штодзённым чытанні, падпісалася на мноства беларускамоўных выданняў. У працэсе чытання ў полі асаблівай увагі пастаянна трымаю моўныя сродкі кожнага тэксту, раблю выпіскі, вяду свой асабісты слоўнічак, куды запісваю ўсе ўпадабаныя словы і выразы.

2. Пісьмо. Пішу ўсё па-беларуску: дзённікі, лісты, розныя запісы, дзелавыя паперы, літаратурныя практыкаванні і г. д. Гэта вымагае самага актыўнага карыстання мовай, вывучэння слоўнікаў, пашырэння слоўнікавага запасу, выпрацоўкі стылю, навыкаў пісьмовай мовы і г. д.

3. Пераклады. Вельмі шмат перакладаў давялося рабіць на працы – розных дзелавых папер і іншых тэкстаў. Працавала над тэрміналогіяй па сваім прадмеце. Займалася і займаюся перакладамі для сябе, у мэтах моўнай практыкі.

4. Навучанне ў добрых спецыялістаў. Напачатку 1990-ых пашчасціла займацца мовай на вячаровым аддзяленні Беларускага гуманітарнага ліцэя ў сп. Вячоркі, пазней – прайсці курс культуры мовы, які чытала спн. Людміла Дзіцэвіч пры Таварыстве беларускай мовы. Лічу, што гэтыя заняткі далі мне вельмі шмат для авалодання сучаснай беларускай мовай, ачышчэння яе ад русізмаў.

5. Публічнае карыстанне беларускай мовай у працэсе камунікавання, выкладання па-беларуску, выступаў, лекцыяў і да т. п. Гэта стымулявала адказныя адносіны да прамоўленага слова, да выразнасці, дакладнасці і чысціні ўласнага маўлення.

На завяршэнне хачу сказаць, што вучыцца і ўдасканальвацца, на мой погляд, неабходна на працягу ўсяго жыцця, незалежна ад узросту і сацыяльнага статусу. І гэта датычыць не толькі прафесійнай падрыхтоўкі, але і агульнага гуманітарнага развіцця, а ў дадзеным выпадку – валодання роднай мовай, у чым мы ўсе маем у нашай краіне (дзякуючы "особенностям" нашай сістэмы адукацыі) пэўны дэфіцыт ведаў і навыкаў.

***Сяргей, псіхолаг***

У школе я вучыўся па-за межамі Беларусі. Калі вярнуўся на Радзіму – адчуў сябе беларусам, але беларускаю мовай не валодаў. Зацікавіўся ёю, захацеў яе асвоіць. Дык што я рабіў? Спачатку я чытаў беларускія кнігі. Было вельмі цяжка без ведання мовы. Купляў розныя слоўнікі, і маю на сёння вялікі іх збор. Я раю ўсім, хто недастаткова ведае мову, як найчасцей карыстацца слоўнікамі. Акрамя чытання кніг, слухаў беларускую службу радыё "Свабода" (калі мне выпадала злавіць гэтую станцыю). Для мяне важна было тое, што там сапраўдная беларуская мова, не наркамаўка, не кранутая русіфікацыяй. Каб авалодаць вусным маўленнем, я чытаў на магнітную стужку беларускія тэксты, беларускія вершы. Прачытаю, праслухаю, убачу свае памылкі, зноў чытаю, пасля зноў і зноў, і гэтак паступова ўдасканальваў сваё вымаўленне. Выпісваў незразумелыя словы ў нататнік і шукаў па слоўніках іх значэнне; раблю тое дагэтуль. Слоўнікаў у мяне, як ужо казаў, шмат. Вось, напрыклад, "Слоўнік паўночна-заходняй гаворкі" утрымлівае шмат самабытных беларускіх словаў, якія дарэчы, сустракаюцца ў творах Рыгора Барадуліна, паколькі ён паходзіць з тых мясцінаў. Ёсць шматслоўны "Тураўскі слоўнік", слоўнік Даля, які змяшчае шмат беларускіх словаў пад знакай "западно-русские" альбо "местные". Маю слоўнікі Янкі Станкевіча, Ластоўскага, Байкова, "Этымалагічны слоўнік" (тыя тамы, што выйшлі), "Гістарычны слоўнік беларускай мовы" (тыя тамы, якія выйшлі), сямітомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы". І вось з тых малаўжываных словаў, якія я знайшоў і растлумачыў, я сам склаў невялічкі слоўнічак. З дапамогаю сяброў я яго раздрукоўваў і распаўсюджваў сярод знаёмых – для карыстання.

Да таго ж я шукаў і знайшоў беларускамоўнае асяроддзе. Для свабоднага валодання мовай вельмі важна пераступіць мяжу нерашучасці, а для гэтага патрэбнае асяроддзе, дзе б ты адчуваў сябе свабодна і нязмушана, дзе б можна было спрачацца, закранаць у размове разнастайныя тэмы. Гэта жывая гаворка, і толькі так жывую гаворку можна асвоіць! Я пачаў размаўляць па-беларуску і на сваёй працы – з тымі, хто прыходзіў да мяне па псіхалагічную дапамогу. Друкаваў у газетах абвесткі, што гатовы аказаць псіхалагічную дапамогу па-беларуску. І яшчэ дзесьці гадоў 7-8 таму да мяне прыходзіла шмат беларускамоўных пацыентаў – прыкладна 10 адсоткаў ад агульнай колькасці.

У 1992 годзе я вырашыў выкладаць асновы псіхалагічных ведаў, склаў праграму, якую зацвердзіла Міністэрства адукацыі і па сёння (пайшоў ужо адзінаццаты год) выкладаю ў Беларускім гуманітарным ліцэі "Уводзіны ў сацыяльную псіхалогію" як ліцэйскі кампанент.

Усё гэта дапамагло мне авалодаць асновамі беларускай мовы. Але беларуская мова – гэта вялікі пласт, гэта процьма лексікі, мноства розных адценняў, шматзначнасць у розных словах. Я разумею гэта і асэнсоўваю, што беларускай мовай пакуль валодаю не бліскуча, і ў сэнсе авалодання ёю знаходжуся ўсё яшчэ на шляху. Таму мяркую гэты шлях працягваць, узбагачаць і ўдасканальваць сваю беларускую мову далей.

***Ігар, бухгалтар***

Разуменне, што я павінен ведаць беларускую мову, пачалося ў мяне з адказу на пытанне, дзе я жыву, і што гэта – мая родная мова. Такое разуменне заўжды было ў падсвядомасці, але трэба было яго ясна асэнсаваць і праз тое прыйсці да патрэбы валодання беларускаю мовай.

А паглыбляў я свае школьныя веды беларускай мовы гэтак. Напачатку проста чытаў па-беларуску кнігі, пазней – газету "Наша Ніва". Калі сустракаліся невядомы словы – шукаў па слоўніках. Я і цяпер лічу, што найлепшы шлях да авалодання мовай – гэта менавіта чытаць слоўнікі, і ў першую чаргу такія, як слоўнік Станкевіча. Але на дадзены момант мой слоўны запас падаецца нішчымным, бо нячаста даводзіцца размаўляць па-беларуску. Ды ўвечары якія дзесяць старонак пашчасціць прачытаць у кнізе, і тое добра, бо шмат часу праца забірае... Але я заўважыў, што апошнім часам, якую бы кнігу я ні чытаў, даўно ўжо не было, каб сустрэлася незнаёмае слова. Магчыма, што размаўляю я па-беларуску не вельмі дасканала, але з чытаннем ужо ніякіх праблемаў не маю.

На маю думку, удасканальваць валоданне роднай мовай можна ўсё жыццё. Што ж да мяне асабіста, то лічу, што я толькі ў самым пачатку.

***Людміла, мэнэджэр, спэцыялістка па арганізацыі прамысловых выставаў***

Авалоданне беларускай мовай я пачынала амаль з нуля, бо, як дачка вайскоўца, я была пазбаўленая вывучэння беларускай мовы ў школе, дома таксама яе не чула. Дзесьці ў канцы 1980-ых – пачатку 1990-ых, магчыма, на хвалі новага нацыянальнага адраджэння, да мяне прыйшло ўсведамленне неабходнасці валодання і карыстання беларускай мовай. Вядома, і да гэтага ў мяне былі такія выпадкі, якія далі мне магчымасць зразумець ненатуральнасць такога становішча з нашай мовай – калі ёсць краіна, ёсць свая мова, а людзі ў масе сваёй ад яе адлучаныя.

Трэба было неяк пачынаць, але як пачаць, калі мовы гэтай зусім не ведаеш? Я пачала чытаць па-беларуску і пачала, вядома ж, з самага складанага – з твораў Караткевіча. Нават ніколі не думала, што будзе так складана. Калі чула беларускую мову па радыё ды па тэлебачанні, то збольшага ўсё разумела. Але тут сутыкнулася з такім багаццем новай для мяне лексікі, што не магла ўлавіць сэнсу прачытанага. Я абклалася слоўнікамі і літаральна праз слова мусіла да іх звяртацца, каб штосьці зразумець. Выпісвала шмат словаў, каб паўтараць і лепей запамінаць. Такім чынам чытала першую кнігу - гэта было "Дзікае паляванне караля Стаха" – можа, паўгады. Далей было ўжо лягчэй, і паціху-патроху я прызвычаілася чытаць па-беларуску.

У мяне з'явіліся беларускамоўныя знаёмыя, адна з сябровак параіла выпісаць "Наша слова", што я і зрабіла. Мне гэтай газеты хапала дакладна на тыдзень, пакуль яе прачытаю. Да таго ж я імкнулася, як мага болей, чытаць уголас, каб выпрацаваць вымаўленне. Кантралявала сябе ўласным слыхам, бо ніякіх правілаў не вывучала, але інтуітыўна адчувала, калі што не так. Школьныя заданні сына па беларускай мове выконвала, можна сказаць, разам з ім – супольна чыталі і слухалі адно аднаго. Але ўсё ж адчувала, што на размоўны ўзровень такім чынам не выйдзеш, трэба шукаць беларускамоўны асяродак. Стала наведваць заняткі народнага ўніверсітэта – гэта быў ужо, відаць апошні год яго дзейнасці, калі я туды трапіла. Мне вельмі спадабалася. Чыталі лекцыі такія знакамітасці, як Баршчэўскі, Вячорка, Хадыка, Голубеў, Юхо і многія іншыя – усё па-беларуску, была цудоўная магчымасць чуць дасканалую, сакавітую беларускую мову. Тое сталася для мяне далейшым стымулам у дасканаленні валодання роднай мовай.

Потым я патрапіла ў клуб "Спадчына" Анатоля Белага. Сябры клуба – пісьменнікі, мастакі– складаюць сапраўднае беларускамоўнае асяроддзе. Там я пазнаёмілася з новымі людзьмі і, дзякуючы гэтым знаёмствам, стала хадзіць яшчэ на біблійны семінар, які вёў Юры Хадыка. Тут была магчымасьць вучыцца ўсяму разам – мове, гісторыі, чытаць Біблію. Біблію я ўжо даўно хацела прачытаць, але сама, лічыла, яе не адолею. А гэта быў нібы падарунак лёсу – вывучэнне Бібліі па-беларуску! За два гады, пакуль доўжыўся семінар, я ўсё гэта адолела і перачытала, нават некалькі разоў – як усё, за што бяруся – выпісваючы , завучваючы некаторыя фрагменты напамяць.

І ўсё ж я бачыла, што і гэтага мала для авалодання мовай. Я зацікавілася кнігамі Аляксандра Меня (у яго ёсць 7-томавая "Гісторыя рэлігіі"), стала чытаць іх і дасканала прапрацоўваць, а каб аднaчасова практыкавацца ў беларускай мове, спрабавала для сябе рабіць пераклады Меня на беларускую мову. Гэта вельмі няпроста, бо самі тэксты складаныя, філасофскія, Перарабляла свае пераклады па некалькі разоў, увесь час іх удасканальваючы. Вядома, тое, што ў мяне атрымалася, назваць прафесійным перакладам складана, але сам працэс перакладу дае вельмі добрую практыку, пашырае слоўнікавы запас. Даводзіцца ўвесь час вышукваць найбольш адпаведныя словы, выбудоўваць сказы, каб усё добра гучала на нашай мове.

Мне давялося даволі доўга авалодваць беларускай мовай, бо я не мела аніякай базы. Хадзіла на курсы па культуры мовы пры Таварыстве беларускай мовы, якія вяла Людміла Дзіцэвіч. У выніку ўсіх намаганняў я авалодала і гутарковай, і пісьмовай мовай (магчыма, не на такім узроўні, як філолагі, але я такой мэты і не ставіла), у кожным разе мне не сорамна падтрымаць размову па-беларуску ў любым, нават незнаёмым, асяроддзі.

Досвед авалодання мовай ва ўсіх, відаць, падобны. Мне здаецца, самае важнае ў гэтай справе – гэта мець свядомае жаданне. Без гэтага не будзе належнай сістэмы. Я лічу, што можна вучыць усё ў любым узросце, было б толькі свядомае жаданне. Часта даводзіцца чуць: "Вучыцца трэба з дзяцінства, іначай нічога не будзе". Але гэта, на маю думку, няпраўда. Дзіця вучыцца несвядома, дзеля чаго яно нешта вучыць – цалкам не разумее. Але калі чалавек робіць штосьці свядома, асэнсавана, то ён за год зробіць тое, што дзіця - за пяць гадоў. Мой уласны досвед паказвае, што меўшы свядомае жаданне, можна горы перавярнуць і стварыць цуд – такі, які адбыўся ў маім жыцці. Даўней ніколі б не паверыла, каб мне сказалі, што буду свабодна размаўляць па-беларуску. Але я здзейсніла гэты цуд!

***Святлана, біёлаг***

На шчасце, у маленстве я не была пазбаўленая беларускамоўнай стыхіі, у адрозненне ад некаторых маіх аднагодкаў.

Жывую беларускую мову, няхай і ў неапрацаваным, нелітаратурным выглядзе, я асвойвала непасрэдна праз сваю радзіну: бабулю, дзеда, калі прыязджала на лета да іх у госці, а таксама праз маму, мова якой, бы дыяментамі, перасыпаная беларускімі слоўкамі, прыказкамі ды прымаўкамі.

Вучылася ў савецкай школе, з яе цынічным стаўленнем да навучання беларускай мове (даходзіла да таго,. што ад вывучэння мовы – вядома ж, не расейскай! - вызвалялі нават "па стану здароўя"). Пасля – універсітэт – ужо ў пасавецкія часы, калі стаўленне да беларускай мовы крыху памянялася да лепшага. У выніку, сістэма адукацыі дала мне пэўныя базавыя веды літаратурнай беларускай мовы.

Далей – "працоўная школа", якая, на сёння ў Беларусі пераважна ёсць школай адвучэння ад роднай мовы. Маладыя спецыялісты ставяцца ва ўмовы, калі ўжыванне ў працоўнай дзейнасці беларускай мовы ёсць настойліва непажаданым (хоць фармальна і не забароненым), і толькі ў лепшым выпадку –асабістаю справаю работніка. Вядома, можа быць і сітуацыя, калі беларуская мова ёсць хлебам надзённым, але гэта, лічу, на сёння шчаслівыя выключэнні.

Мая праца, дзякаваць Богу, не рэгламентавала моўны аспект, таму сярод маіх калегаў-навукоўцаў – нямала беларускамоўных і кантактаванне з імі сталася добрай магчымасцю ў практыцы гутарковай беларускай мовы. Супраца з паважанымі беларускамоўнымі калегамі абудзіла і ў мяне жывую цікавасць да беларускай мовы, зрабіла яе маёй штодзённай жыццёвай неабходнасцю.

Дасканалю ж сваю беларускую мову звычайна: кантактую па-беларуску (найперш у сям'і, з сябрамі), слухаю беларускія песні – ад сучасных да фольку, чытаю беларускія кнігі, часопісы, газеты, пры магчымасці, гляджу цікавыя беларускамоўныя праграмы, фільмы па тэлевізіі (да жалю, іх пакуль небагата).

Да таго ж, разам з мужам навучаю роднай беларускай мове сваіх яшчэ маленькіх дзетак. Для іх беларуская мова ёсць першай, бацькоўскай, матчынай.



## ЗА ЛІЦЭЙ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА І ЯМУ ДАПАМАГАЦЬ

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю салідарна ў змаганні за захаванне Беларускага нацыянальнага ліцэя імя Я. Коласа, аб чым сказаў у сваім выступе 19.08.2003 г. пад час мітынгу – пікета перад будынкам Пасольства РБ у Вільні старшыня Таварыства беларускай мовы сп. Ю. Гіль.

Здзіўляе пазіцыя, якую заняў усім вядомы Сяржук Вітушка пад час свайго выступу на гэты мітынгу. Ён выразіў "капітулянцкую" пазіцыю ў гэтым пытанні, каб змірыцца з закрыццём ліцэя ды заклікаў сваіх радню-навучэнцаў, якія вучацца там, пайсці 1-га верасня ў звычайную школу па месцы жыхарства.

Не, за ліцэй трэбі змагацца і стаяць да канца. Барацьба за ліцэй – гэта барацьба за мову, за будучыню Беларусі, за яе нацыю.

Трэба ганарыцца мужнасцю дзяцей, бацькоў і педкалектыву ліцэя ў барацьбе за яго захаванне ды дапамагаць, каб гэты ліцэй існаваў надалей.

Даведаўшыся, што для навучэнцаў ліцэя, якія засталіся на вуліцы, не хапае падручнікаў, сябры ТБМ і бібліятэка "Крынічка" пры Гіст. этн. музеі "Засьцянковая хатка" ў Вашунове падрыхтавалі 150 падручнікаў ды іншых кніжак на роднай мове, якія будуць завезены ў Менск і перададзены ліцэю. Гэтаю справу зробіць Гіль Генадзь, дачка якога Юля Гіль навучалася ў гэтай навучальнай установе.

150 гэтых нашых кніжак на роднай беларускай мове няхай будуць нашым залпам па ворагах беларушчыны ў падтрымку змагароў за беларускі нацыянальны ліцэй, родную мову і Бацькаўшчыну.

Заклікаем усіх людзей добрай волі падтрымаць ініцыятыву "Засьцянковай хаткі" канкрэтнымі справамі ў абарону ліцэя.

Няхай будзе сорамна тым, хто маўкліва назірае за тым, як у Беларусі зьнішчаецца ўсё наша роднае, беларускае. Ганьба тым, хто маўчыць: нямыя толькі рабы ды тыя, хто перад сканаинем.

Мы, беларусы, павінны жыць. Каб жыць, трэба змагацца ўсімі даступнымі метадамі.

*Юры ГІЛЬ.*

## "Засьцянковая хатка" ў Вашунове

Гэта моцны асяродак беларушчыны ТБМ, Віленскага краю. Тут гучыць малітва і песня на роднай мове. Сюды ідуць дзеці і дарослыя, тут прыводзяцца ўлетку кожны год фэстыны і крыжовы шлях Ісуса Хрыста. Двойчы "Засьцянноваў хатка" падвяргалася бандыцкаму нападу з боку нядобразычліўцаў; сістэматычным уціску мясцовых чыноўнікаў; неаднаразава адбываліся крадзяжы каштоўных экспанатаў і г.д. Вінаватыя да гэтага часу не панеслі аніякага пакарання. Гэта можа быць там, дзе з боку дзяржаўных органаў праводзіцца аднаведная палітыка ў адносінах да нашага роднага, беларускага.

..."Засьцянковая хатка" змагаецца за беларушчыну ў родным краі, з'яўляецца яе апірашчам. Тут жывуць млюдзі, якія шануюць родную мову, свае традыцыі, культуру і любоў да Бога. Дзеці – наша будучыня, яны заўсёды тут, і ёсць надзея на лепшае.

Фотаздымкі сведчаць, што "Засьцянковая хатка" жыве, працуе, дзейнічае, і гэта радуе.

*Юры Гіль,старшыня ТБМ Віленскага Краю.*



**Актывісты "Засьцянковай хаткі" каля фігуркі Маці Божай ля хаты-музея ў Вашунове. У капелюшы Юры Гіль.**



**Дзеці на панадворку хаткі.**

## БОЛЬШ ЗА 200 КНІГ ПАДАРАВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАМУ ГУМАНІТАРНАМУ ЛІЦЭЮ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА "МАЛАДЫ ФРОНТ"

23 верасня незарэгістраванае аб'яднанне "Малады фронт" падаравала больш за 200 кніг калектыву Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Выступаючы на цырымоніі перадачы кніг, намеснік старшыні "Маладога фронту" (МФ) Сяржук Лісічонак сказаў: "Мы ведаем пра праблемы ліцэя з навучальнай і навуковай літаратурай, вось чаму мы правялі акцыю збору такой літаратуры. Сярод кніг — падручнікі па розных дысцыплінах, у тым ліку па беларускай мове, а таксама творы класічнай нацыянальнай і сусветнай літаратуры. Мы лічым, што менавіта гэтыя кнігі з'яўляюцца адной з асноўных умоў выхавання маладой беларускай інтэлектуальнай эліты".

С. Лісічонок таксама паведаміў, што кіраўніцтва МФ шукае свабоднае памяшканне для правядзення заняткаў Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.

Нагадаем, што зараз заняткі ліцэя праводзяцца ў розных памяшканнях у сувязі з тым, што ў чэрвені гэтага года ліцэй быў ліквідаваны пастановай ураду і выселены з будынка.

Заснавальнік і дырэктар ліцэя Уладзімір Колас падзякаваў "Маладому фронту" за кнігі, увагу і маральную падтрымку калектыву навучальнай установы. Паводле яго слоў, гэтая акцыя — самая буйная з моманту ліквідацыі ліцэя. "З прычыны таго, што наша бібліятэка ў будынку па вуліцы Кірава, 21 аказалася недаступнай для калектыву навучальнай установы і практычна безгаспадарнай, многія забіраюць з яе свае зборы і перадаюць іх нам", — сказаў У.Колас. У прыватнасці, так зрабіла пасольства Францыі ў Беларусі і некаторыя прыватныя асобы.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## ГОМЕЛЬСКІ АБЛАСНЫ ДРАМТЭАТР АДКРЫЎ ЧАРГОВЫ ТЭАТРАЛЬНЫ СЕЗОН

23 верасня Гомельскі абласны драматычны тэатр адкрыў тэатральны сезон пастаноўкай "Радавых" паводле п'есы Аляксея Дударава.

Ваенная тэматыка для адкрыцця сезона выбрана не выпадкова. Паводле слоў дырэктара Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Валянціны Рагаўскай, такі выбар звязаны з тым, што ў 2003 годзе Гомельская вобласць адзначае 60-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тэатр мае намер актыўна ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, прысвечаных гэтай даце. І, як заявіла Валянціна Рагаўская, п'ес, прысвечаных Другой сусветнай вайне і яе героям, у гэтым тэатральным сезоне будзе шмат.

*Алена КАЛАЧОВА, БелаПАН.*

## У БЕЛАРУСІ ІДЗЕ ПРАЦА НАД СТВАРЭННЕМ ЛІЦЭЙСКАЙ СТУПЕНІ 12-ГАДОВАЙ ШКОЛЫ

У Беларусі ідзе працэс стварэння трэцяй ступені 12-гадовай агульнай сярэдняй адукацыі (ліцэйская ступень). Пра гэта паведаміў міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў, выступаючы 24 верасня ў Менску на адкрыцці беларуска-украінскага семінара па пытаннях дзейнасці інстытутаў паслядыпломнай педагагічнай адукацыі.

"Гэта ёмістая праца, але яна павінна быць якаснай і ўтрымліваць канцэпцыю навучання, — сказаў міністр. — Мы хочам, каб паміж базавай школай, гэтай ступенню і ВНУ была пераемнасць".

Аляксандр Радзькоў адзначыў, што за гады фармавання незалежнасці Беларусі і Украіны быў зроблены вялікі крок да станаўлення нацыянальных сістэм адукацыі. За гэты час, паводле яго слоў, сістэма адукацыі ў Беларусі была ў цэлым перабудавана: створаны новыя тыпы навучальных устаноў (ліцэі, гімназіі) — "прыстойныя навучальныя ўстановы гэтага звяна сусветнага ўзроўню".

Як лічыць міністр, адукацыйныя сістэмы Беларусі і Украіны падобныя: асноўная іх задача — падрыхтоўка "пісьменнага, усебакова развітага чалавека, з магчымасцю рэалізаваць свой патэнцыял і заняць годнае месца ў грамадстве".

*Вольга АСІПЕНКА, БелаПАН.*

## У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА ЖЫВАПІСУ БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА ЛЯВОНА ГРЫШУКА

Выстава жывапісу беларускага мастака Лявона Грышука адкрылася ўвечары 23 верасня ў Менску, у Музеі нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны.

У экспазіцыі прадстаўлены 14 палотнаў мастака, прысвечаныя біблейскім сюжэтам і тэме духоўных пошукаў чалавека.

Як лічыць мастацтвазнаўца Эльвіра Істамёнак, цяжка вызначыць, што робіць карціны прывабнымі і аптымістычнымі — "святло альбо спалучаныя з ім чароўныя чыстыя фарбы". У працах мастака, які з'яўляецца не рэлігійным, а сапраўдным вернікам, прадстаўлена барацьба святла і цемры, неабходнасць выбару і надзеі, сказала Э. Істамёнак. На палотнах мастака, зазначыла яна, сагнуліся фігуры людзей, дамы і дрэвы вось-вось упадуць. Усё ў нашым свеце ненадзейнае і часовае, пастаянныя і спрадвечныя толькі ісціна і любоў Божая, і гэты свет Хрыстовай любові захоўвае сэнс жыцця. Гэты свет трымае ў раўнавазе кампазіцыі Л. Грышука.

Сам мастак зазначыў, што па Бібліі кожнаму народу адведзена сваё месца на зямлі і свая мова. "І мы павінны захаваць Беларусь і нашу родную мову — гэтую кветачку-васілёк у сусветным суквецці моў", — падкрэсліў Л. Грышук. Ён лічыць, што многія праблемы, што існуюць у краіне, выкліканыя тым, што "Божае благаславенне не кранае людзей і мінае іх".

Л. Грышук вучыўся ў вядомай менскай мастацкай студыі С. Каткова і ў Менскай мастацкай навучальнай імя А. Глебава. Служыў у арміі, а ў 1986 годзе ўдзельнічаў у ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. "Са сваімі сябрамі я кідаў рэшткі радыёактыўнага графіту ў жудаснае чрава чацвёртага энергаблока станцыі. Потым шмат хварэў, ляжаў у шпіталях і адзін выжыў з усяго нашага воінскага падраздзялення — дзякуючы таму, што прыйшоў да Бога", — зазначыў мастак.

Вядомы мастак Аляксей Марачкін падкрэсліў, што "пранікнёныя і мудрыя" словы Л. Грышука яшчэ больш узвысілі яго таленавітае мастацтва: "Гэтыя працы з'яўляюцца самай надзейнай тэрапіяй і шляхам да выздараўлення, паколькі надаюць сілы і ўпэўненасць". А. Марачкін узгадаў легенду аб узнікненні бел-чырвона-белага сцяга як сімвала незалежнай Беларусі, звярнуўшы ўвагу на бел-чырвона-белыя сляды Ісуса Хрыста на карціне Л. Грышука "Пойдзем за мной".

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# ПАД ЗНАКАМ ЯНКІ БЫЛІНЫ

Янка Быліна (сапраўднае Ян Семашкевіч) нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Лакцяны (цяпер Астравецкі раён) – беларускі ксёндз, паэт, празаік, перакладчык. У 1907 годзе закончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, у час Першай сусветнай вайны прадстаўляў беларускае каталіцкае духавенства ў Віленскім камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны. Ян Семашкевіч служыў пробашчам у касцёлах у Лаварышках, Медніках, Дукштах (цяпер Літва). Янка Быліна пачаў пісаць вершы, байкі яшчэ да першай сусветнай вайны, яго творы друкаваліся ў беларускіх часопісах "Гоман" "Крыніца", "Пралескі", "Шлях моладзі", "Хрысьціянская думка", "Новая дарога". У 1918 годзе ў Вільні выйшаў зборнік вершаў "На прызбе", у 1924 годзе – перавыдадзены з значнымі дапаўненнямі. Творчасць Янкі Быліны мала вядома шырокаму колу чытачоў. Ён быў паэтам свайго часу, карыстаўся лацінкай, многія творы ў канцы 30-х гадоў падпісваў псеўданімам Янка Ялавец.



Янка Быліна

**"Знаў я ў вёсцы дзядульку Міхала;**
**Умеў ён напамяць расказаў нямала,**
**Як сядзе пад хатай на прызбе ў свята**
**(Яго слухачоў**
**не змясціла бы хата!),...**
**Спісаў іх, каб з вамі,**
**браты, падзяліцца,**
**І, некалькі вершаў сваіх дапісаўшы,**
**Пушчаю ў свет, кніжку**
**"На прызбе" празваўшы.**
***("Прадмова").***

Такой шчырай "Прадмовай" адрасуе чытачам кніжку вершаў Янка Быліна.

Вершы яго не вытрыманыя па жанру, адсутнічае рытміка, пра паэтычную заглыбленасць гаварыць не выпадае, усё ў іх проста і зразумела, усё да болю знаёмае і лексіка адпаведная, усё пабудавана "на спрашчэнні":

**Недалёка ён меў Тадору,**
**а з ёй з паўканы дзяцей.**
**Цэлы век ён цяжка біўся,**
**сіратой жыў з малых лет.**
***("Скарб на св. Яна".)***

Пачаў творчую дзейнасць Янка Быліна, калі ў росквіце творчых сіл былі Цётка, М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас. У некаторых вершах адчуваецца ўплыў М. Багдановіча ("Санэт", "Зорка світае", "Раманс", "Бацькаўшчына"):

**Сіроткай дзесь у полі вырас колас,**
**Адлучаны ад родных сваіх ніў,**
**Галоўку сумна ён сваю схіліў**
**На тоненькай саломачцы, як волас...**
***("Санэт".)***

Або:

**Праўда – цябе не знаў я на свеце,**
**Праўда – цябе не бачыла вока –**
**А я твой воблік насіў у сакрэце**
**У сэрцы глыбока,**
**Мне ты была дана, дарагая,**
**Зорка святая...**
***("Зорка святая".)***

Згаданыя вершы такія мілагучныя, іх хочацца праспяваць. Для больш эмацыянальнага ўспрыяцця аўтар выкарыстоўвае паўторы: "Зорка святая"..., "Песні спяваў... ("Успамін"),... Цябе ніколі не спаткаў... ("Разлука").

Вёска, яе вобразы, мова, звычкі, прырода – асноўная тэма творчасці Янкі Быліны; у некаторых вершах сустракаюцца канкрэтныя мясціны:

**Калі скажуць, што нячысты**
**нікаму не паказаўся,**
**Не вер, брат: ..... арганісты**
**сам за гэта раз прызнаўся,**
**Што чарта на сваё вочы відзеў,**
**хоць і быў п'яны,**
**Позна едучы ў ночы**
**ў Меднікі з Кяны.**
***("Здарэнне".)***

Старэйшыя жыхары Лаварышак да гэтага часу помняць вершы ксяндза Яна Семашкевіча, які пісаў на "простай, зразумелай мове.

Вёска Меднікі ўпамінаецца і ў вершы "Пахароны старшыні", у якім крытыкуецца адсталасць і цемрашальства, героі вершаў адзінокія, загубленыя ("Бярозка", "Ластаўка", "Цвяток", "Перастань не пій ", "Вясна").

**Сухая бярозка стаяла ў полі,**
**Бура лісткі яе пазрывала,**
**Не зазелянее яна больш ніколі:**
**Сухая бярозка стаяла...**
***("Бярозка".)***

Або:

**Гняздо ля ваконца**
**Ластаўка зрабіла**
**І ад усходу сонца**
**Шчабятала міла.**
***("Ластаўка".)***

Ёсць у аўтара і гумарыстычныя вершы ў якіх выкарыстоўваюцца элементы фальклору: "Пахароны старшыні", "Як Петрык наш жаніўся", "Сват", "Здарэнне", "Папаў да неба".

Цікавыя, смешныя сваёй вясковай мараллю і байкі Я. Быліны: "Курыца", "Блыха і пан", "Зязюля і варона", "Варона", "Баран".

**"Адна курыца пачула,**
**Як спеў хваляць салаўя,**
**Яе зайздрасць агарнула:**
**- Пачакайце, вось і я**
**запяю, як салавей...**
***("Курыца".)***

Вядомы і пераклады Янкі Быліны рэлігійных твораў: "Ружанец да Найсвяцейшае Дзевы Марыі", "Дарога крыжа", "Песні жальбы або народныя разважанні аб муках і смерці Езуса Хрыста", надрукаваныя ў Вільні (1928-1930 г), ён пісаў прозу "Тапіцэр", напісаў трагікамедыю "Выбары старшыні", Янка Быліна ў творчай дзейнасці не быў адзінокім, у пачатку XX стагоддзя творчай дзейнасцю займаліся ксяндзы К. Сваяк, Адам Станкевіч, В. Гадлеўскі. Янка Быліна пакінуў старонку ў беларускай літаратуры, а мы павінны ведаць як творчасць так і жыццёвы шлях аўтара.

У жніўні краязнаўцы Астравеччыны – Алесь Юркойць і Ганна Чакур арганізавалі і правялі літаратурна-краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Я. Быліны, мерапрыемства, на якое прыехалі навукоўцы і краязнаўцы не толькі з Беларусі, а і з Польшчы, Літвы. Тыдзень працаваў пленэр вядомых беларускіх мастакоў, лідскі скульптар Рычард Груша зрабіў і падараваў памятны знак, прысвечаны 120-годдзю Я. Быліны, усталяваны на тэрыторыі Клюшчанскага касцёла, дзе правёў сваю першую імшу ксёндз Ян Семашкевіч. Вернута з забыцця яшчэ адно беларускае імя - імя Янкі Быліны.

Чытанні, арганізаваныя грамадскім аб'яднаннем "Вільняр" атрымаліся сапраўдным святам паэзія, як для ўдзельнікаў, так і для вяскоўцаў, чыталі вершы паэта, а Людміла Кухарэвіч нават праспявала песню "Бацькаўшчына" на словы Я. Быліны, у такім атачэнні проста фізічна адчувалася прысутнасць аўтара.

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня, настаўніца беларускай школы імя Фр. Скарыны, удзельніца чытанняў.***

## 85 гадоў з дня нараджэння Ф. М. Янкоўскага (1918-1989), беларускага мовазнаўца і пісьменніка

Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі нарадзіўся ў в. Клетнае Глускага р-на Магілёўскай вобл. Скончыў Гарадзенскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў у школе. З 1953 г. выкладчык, у 1956-1982 гг. загадчык, у 1983-1988 гг. прафесар кафедры беларускага мовазнаўства Менскага пединстытута. Як вучоны-мовазнавец даследаваў фанетыку і лексіку беларускай народнай мовы, фанетыку, марфалогію і сінтаксіс беларускай літаратурнай мовы, гісторыю мовы і беларускую фразеалогію. Напісаў каля 300 навуковых прац. У 1959-1970 гг. ён апублікаваў 3 выпускі "Дыялектнага слоўніка", дзе адлюстраваў лексіку свайго Глускага раёна (з паралелямі з розных славянскіх моў). Ф. М. Янкоўскі збіраў народныя параўнанні (кніжка "Беларускія народныя параўнанні"), прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы (кніга "Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы"). Афарыстычныя выслоўі літаратурнай мовы сабраў у кнізе "Крылатыя словы і афарызмы". Здаецца, фразеалогія, як непаўторная, адметная асаблівасць кожнай мовы, цікавіла яго найбольш. У кнізе "Роднае слова" ён выказаў сваё разуменне фраземы. Яго кніга "Беларуская фразеалогія: фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне" – надзвычай цікавы тлумачальны слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Праблемы фразеалагічнай варыянтнасці, сінанімічныя адносіны ў фразеалогіі ён даследаваў у кнігах "Роднае слова", "Беларуская мова", "Беларуская фразеалогія", "Сучасная беларуская мова". Пытанням гісторыі нашай мовы прысвяціў грунтоўную кнігу "Гістарычная граматыка беларускай мовы". Як пісьменнік вобразнасць беларускага слова даследаваў у філалагічных эцюдах, абразках ("Само слова гаворыць").



***Я. Праўзак.***

## У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ 110-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАЎЛІНЫ МЯДЗЁЛКІ — ПЕРШАЙ ВЫКАНАЎЦЫ РОЛІ ПАЎЛІНКІ Ў АДНАЙМЕННАЙ П'ЕСЕ ЯНКІ КУПАЛЫ

24 верасня ў Менску, у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася вечарына, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння заслужанага дзеяча культуры Беларусі Паўліны Мядзёлкі — першай выканаўцы ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы.

Дырэктар музея Сяргей Вечар заначыў, што П.Мядзёлка з'яўляецца вядомым дзеячам нацыянальнага адраджэння, якая назаўсёды ўвайшла ў беларускую культуру XX стагоддзя. "Яе цікавае і цяжкае жыццё асвятліла знаёмства з вялікім Янкам Купалам", — сказаў С. Вечар. Ён прадставіў гасцям экспазіцыю з фондаў музея і архіву беларускага паэта Сяргея Панізніка, прысвечаную 110-годдзю П. Мядзёлкі.

Навуковы супрацоўнік музея Жанна Барсукова параўнала П. Мядзёлку з такімі высакароднымі беларускімі жанчынамі, як Еўфрасіння Полацкая, Элаіза Пашкевіч (Цётка), Ларыса Геніюш, жонка Я. Купалы Уладзіслава Станкевіч і Яўгенія Янішчыц.

Актрыса Галіна Бальчэўская назвала П. Мядзёлку сваім духоўным настаўнікам і "незвычайным чалавекам, які вельмі шмат зрабіў для беларускай культуры". "На маёй радзіме ў Будславе яна выкладала ў школе, паставіла "Паўлінку" і стварыла цудоўны хор, шырока вядомы ў Беларусі", — сказала Г. Бальчэўская. Паводле яе слоў, П.Мядзёлка заўсёды хацела бачыць сваіх выхаванцаў свядомымі беларусамі.

Дачка былога дырэктара БДТ-1 (цяпер — Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы) Аляксандра Гаеўская расказала пра тое, як яе бацька, рэпрэсаваны ў 1937 годзе і вызвалены ад пасады дырэктара тэатра, разам з маці — дырэктарам вясковай беларускай школы — на працягу многіх гадоў ставіў купалаўскую "Паўлінку" у розных вёсках краіны. "З заміраннем сэрца дзеці праз вокны глядзелі на гэтыя самадзейныя спектаклі, якія ішлі ў перапоўненых вясковых хатах. Так сярод сяброў і ворагаў мы сцвярджалі годнасць беларускай нацыі і нацыянальнай культуры", — сказала А. Гаеўская.

Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч прачытала вершы Я.Купалы, прысвечаныя П. Мядзёлцы, яе сваякі падаравалі музею фотаздымкі блізкіх П. Мядзёлкі і ноты з аўтографам артысткі, а студэнтка Беларускага дзяржуніверсітэта Юлія Барай і артысты Купалаўскага тэатра Юлія Шпілеўская і Алег Гарбуз паказалі сцэну з купалаўскай "Паўлінкі".

Выступоўцы адзначалі незвычайную інтэлігентнасць і вытанчанасць П. Мядзёлкі, яе дабрыню і ўвагу да людзей, уменне слухаць суразмоўца і цаніць сяброўства.

***Даведка.** Паўліна Мядзёлка (24.09.1893, вёска Будслаў Мядзельскага раёна Менскай вобласці — 13.02. 1974) у 1914 годзе скончыла Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Санкт-Пецярбургу. Працавала настаўнікам у вёсках Жорнаўка (Чэрвенскі раён Менскай вобласці) і Мядзведзічы (Ляхавіцкі раён Берасцейскай вобласці), у Менску, Дзвінску, Горках (Магілёўская вобласць), Маскве і Будславе. Падвяргалася арыштам у 1919, 1920, 1924 і ў 1930 гадах. Унесла значны ўклад у станаўленне беларускага тэатральнага мастацтва. Удзельніца Віленскага музычна-драматычнага гуртка (1914), Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (1917-1918, 1920). Арганізавала харавыя і драматычныя гурткі ў Горадні (1919), у Дзвінскай беларускай гімназіі (1922-1925), Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі (1927-1930) і Будславе (1947-1958). Сябравала з Я.Купалам, пісала вершы, паэмы, песні і п'есы. Аўтар успамінаў "Сцежкамі жыцця". Беларуская школа ў Будславе носіць імя Паўліны Мядзёлкі.*



***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***





# Міжнародныя кантакты ТБМ

За апошні час узмацніліся міжнародныя кантакты ТБМ.

**3 верасня** адбылася сустрэча з англійскім амбасадарам м. Браянам Бенетам. ТБМ прадстаўлялі старшыня арганізацыі Алег Трусаў і першы намеснік старшыні Людміла Дзіцэвіч.

Улічваючы інтарэсы амбасадара як лінгвіста, які валодае многімі мовамі размова распачалася пра беларускую мову. Спадар Браян з цікавасцю слухаў аповяды пра гісторыю нашай мовы, пра яе заняпад і адраджэнне, пра "тарашкевіцу", "наркамаўку" і "трасянку", пра няпростыя адносіны беларусаў да сваё мовы.

Спадар Бенет паказаў добрае валоданне сітуацыяй у Беларусі, выказаў парады па паляпшэнні моўнай сітуацыі ў краіне, а таксама намеры па пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў сядзібе амбасады.

На сустрэчы прысутныя з абодвух бакоў адзначылі, як станоўчую з'яву, практыку маўлення на рускай мове, якой карыстаюцца звычайна зрэдку.

**12 верасня** ў сядзібе ТБМ таксама адбылася сустрэча з адказным прадстаўніком Ірландскай амбасады. З боку ТБМ удзел узялі Алег Трусаў, Людміла Дзіцэвіч, Алена Анісім, Уладзімір Кошчанка, старшыня ГА "Сакавік" Марыя Міцкевіч.

**17 верасня** старшыня ТБМ быў запрошаны на сустрэчу кіраўнікоў найбольш вядомых беларускіх няўрадавых арганізацый Беларусі з амбасадарамі краін Еўразвязу і амбасадарамі краін Еўропы якія неўзабаве ўступяць у гэтую ўплывовую міжнародную арганізацыю. Сярод прысутных былі кіраўнікі рэгіянальных рэсурсовых цэнтраў, кіраўнікі фонду імя Льва Сапегі, "Вясны", Супольнасці, БАЖа (усяго былі здапрошаны прадстаўнікі 15 арганізацый). Вёў сустрэчу амбасадор Італіі, краіна якая зараз старшынствуе ў Еўразвязе.

Спачатку прысутныя расказалі пра дзейнасць сваіх арганізацый і тыя праблемы якія зараз яны вырашаюць, тым больш што некаторыя арганізацыі ўжо зачынены ўладамі, а некаторых гэта неўзабаве чакае.

Старшыня ТБМ выказаў падзяку амерыканскай амбасадзе за ўважлівае стаўленне за беларускай мовы і заклікаў браць прыклад у гэтай справе прадстаўнікаў еўрапейскіх краін, асабліва нашых суседзяў з Літвы і Латвіі.

Сярод паднятых пытанняў былі наступныя:

1. Сітуацыя з нацыянальным ліцэем імя Якуба Коласа.

2. Суадносіны беларускай і рускай мовы ў сям'і.

3. Суадносіны паміж беларускай і рускай мовамі ў штодзённым жыцці.

Прадстаўнік амбасады Эстоніі выказаў падзяку газеце ТБМ "Новы Час" за друкаванне матэрыялаў пра культурнае і эканамічнае жыццё Эстоніі.

У бліжэйшы час павінна адбыцца сустрэча кіраўніцтва ТБМ з прадстаўнікамі амераканскай амбасады.

***Наш карэспандэнт.***

# *Віншуем сяброў, што нарадзіліся ў кастрычніку*

Шыдлоўскага Рамана Яўгенавіча
Каратая Уладзіміра Арсеньевіча
Міцкевіча Уладзіміра Валянцінавіча
Мальцаву Ірыну
Тарасава Кастуся Іванавіча
Чайкоўскага Паўла Іванавіча
Сухаверхага Андрэя Сямёнавіча
Зянковіча Юрася
Малышку Эпаліта Міхайлавіча
Ермаловіча Васіля Васільевіча
Акаловіча Леаніда Аляксандравіча
Казлова Алега Яўгенавіча
Гіля Міхаіла Нікадзімавіча
Масяйчука Аляксандра
Бубалу Антона
Кроя Аляксандра Ільіча
Малько Вячаслава Аляксандравіча
Шохан Вольгу
Крупіцу Валянціну
Станеўскую Людмілу
Ліс Дар'ю Алегаўну
Даржынкевіча Генрыха Феліксавіча
Бобрык Алену Валянцінаўну
Хадневіча Цімафея
Сямёнава Віталя
Думанскую Ганну Рыгораўну
Савацеева Кіма
Панамарову Лізавету Сяргееўну
Сагановіч Яніну Генадзеўну
Лебедзева Уладзіміра
Праневіча Генадзя
Ляўчука Валерыя
Сухарэвіча Віталя Пятровіча
Угрына Аляксандра Сяргеевіча
Спосабава Івана Іванавіча
Дзмітрыенку Анатоля Іванавіча
Булавацкага Міхася Пятровіча
Матысюк Веру
Жагалаву Тарэзу Міхайлаўну
Архуціка Мікалая
Долбік Ларысу Рыгораўну
Кавалевіч Дзіяну Леанідаўну
Казак Валянціну
Палсцюка Валерыя Віктаравіча
Навумчыка Іосіфа Адамавіча



Унікальны куток этнаграфіі і побыту існуе ў Рагазнянскай бібліятэцы-клубе Жабінкаўскага раёна. Тут сабраныя старажытныя прадметы і рэчы вясковага побыту, а таксама калекцыя народных строяў, якім больш за сто гадоў. Гэтая мясцовасць у Беларусі славутая сваімі майстрыхамі. Адна з іх - Марыя Сямёнаўна Нічыпарук (на здымку). Акрамя ручной працы яна любіць слухаць старадаўнія народныя песні.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

***Спроба агляду няіснай газеты***

# Усё той жа вуліцай знаёмай...

***Газеты ў нашай краіне знікаюць не толькі па судовых выраках. "Тыднёвік Магілёўскі" напрыканцы мінулага году вымушаны быў (на шостым годзе жыцця) спыніцца па фінансавых прычынах. Па рынкавых правілах, можа, яно так і павінна было здарыцца. Аднак суцяшацца гэтым не выпадае, бо насамрэч ніводная газета ў свеце не жыве на сродкі ад продажу накладу, не гаворачы пра нашыя прыўладныя выданні, што штодра фундуюцца з дзяржаўнага бюджэту. Да таго ж, як вядома, за ўсё, што звязана з выданнем газеты і дастаўкай яе чытачу, недзяржаўныя выданні вымушаныя плаціць значна больш, чым гэта бярэцца з дзяржаўных газетаў. Надзвычай ускладнёная для нас і магчымасць прыняцця дабрачыннай фінансавай дапамогі.***

***Аднак чамусьці верыцца, што апошняя старонка біяграфіі "Тыднёвка" ўсё ж не перагорнутая канчаткова. Бо вось яны – нашы журналісты і аўтары, з якімі па-ранейшаму бачышся кожны дзень. Вось чытачы, што чакаюць і спадзяюцца на сустрэчу. А вось і жыццё, што прагне сумленнага адлюстравання ў надрукаваным слове...***

Далёка не ўсё добра ў магілёўскім каралеўстве. Але старанямі абласнога ідэалагічнага штабу і ў поўнай адпаведнасці з генеральнай кіраўнічай лініяй праблемы не трапляюць пад грамадскую ўвагу і абмеркаванне. Мясцовыя выданні старанна цвердзяць пра паспяховы рух наперад і нібыта грамадскую згоду. Практыкі замоўчвання рэалій жыцця не могуць змяніць новыя дэпутаты "ад дэмакратычнай плыні", якія ў нядаўнай выбарчай кампаніі шмат каго і нават сябе здолелі пераканаць у магчымасці падняць аўтарытэт мясцовых Саветаў і гатоўнасці пераахапіць ініцыятыву ў выканаўчых структураў. Надзеі аднак аказаліся марнымі, а здольнасці перабольшанымі.

Сёлета рэгіён святкаваў 65-годзе сваёй адміністратыўна-тэрытарыяльнай цэласнасці. Сапраўды, толькі гэты караценькі перыяд з свайго шматвяковага ўзросту рэгіён жыве ў межах адной (роднай) краіны, якая і сама набыла незалежнасць зусім нядаўна. Можа, з-за гэтых тэрмінаў афіцыйнае начальства яшчэ не навучылася карыстацца адпаведнай тэрміналогіяй, і ўсё святкаванне юбілею вобласці было афарбаванае ў савецкую ўзнёслую інтанацыю. Ніякіх узгадак пра дасавецкую гісторыю рэгіёну ні з прамоўных трыбунаў, ні з старонак мясцовых газетаў не гучала. Не ўзгадвалася і пра тое, што па выніках эканомікі і шмат якіх іншых паказчыках Магілёўшчына, як не стараецца (асабліва ў апошнія 3-4 гады аблвыканкамаўскага старшынёўства Барыса Батуры), па-ранейшаму займае апошнія месцы ў краіне. Яна дае восьмую частку прамысловай прадукцыі краіны і сёмую – сельскагаспадарчай.

Але ў гэтым найменш вінаватыя насельнікі вобласці. Шмат у чым вінаватая тая самая гісторыя рэгіёну – і дасавецкая, і савецкая, можа, найбольш. Рэгіён застаўся адзіным у краіне, што не здолеў аднавіць колькасці насельніцтва, якое жыло тут перад Другой сусветнай вайной. Між тым па савецкіх дырэктывах камандаваннем эканомікай у СССР на тэрыторыі вобласці ў пасляваенны час з'явілася некалькі прамысловых гігантаў – Хімвалакно, Шынны камбінат, Трансмаш, Белшына, Цэментны завод і інш. На забеспячэнне іх працоўнымі рэсурсамі і спецыялістамі рэгіён не меў уласных сілаў і чалавечых рэсурсаў. Адсюль перакосы і недарэчнасці ў нацыянальна-дэмаграфічным развіцці, а таксама неадольны цяжар па ўтрыманні індустрыяльных гігантаў, якія апошнімі гадамі па прычыне нерэфармаванасці ў адпаведнасці з патрэбамі рынку прыносяць рэгіёну адныя страты і сацыяльнае напружанне. Практычна ўсе прадпрыемствы, так бы мовіць, мясцовага ўзроўню – стратныя. Яны даўно не ведаюць тэхнічнага і тэхналагічнага абнаўлення і ніколі не чулі пра інвестыцыі, яны шпарка старэюць, як і натуральнае насельніцтва райцэнтраў і вёсак. Моладзь уцякае з роднага кута, як толькі атрымлівае "пашпартную" магчымасць. Нараджальнасць у вобласці практычна роўная смяротнасці. Большасць сем'яў распадаецца, не дацягнуўшы да 5-гадовага стажу. Вёска восьвось ператворыцца ў чалавечую пустэчу...

Толькі ў самы апошні час пачаліся размовы і першасныя спробы рынкавага рэфармавання прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Аднак адміністравання тут настолькі шмат, што казаць пра эканамічную волю і чалавечую ініцыятыву пакуль не выпадае. Прыкладам, працоўным Белшыны не дазволена прыняць удзел у прыватызацыі прадпрыемства за маёмасныя чэкі, а "жывых" грошай у людзей няма. Значыць, гаспадарыць на Белшыне будуць не яны. Ну, і дзе тут маёмасная зацікаўленасць і пачуццё гаспадароў свайго дома?..

Няма гаспадароў і на вёсцы. Магілёўская вёска традыцыйна пакутуе ад нізкай энергатэхнічнай забяспечанасці, ад бясконцага камандавання над сабой, ад адсутнасці прыватнай зацікаўленасці ў выніках працы. Наш рэгіён, падаецца, лідзіруе ў перадачы памерлых калгасаў у склад тых, якія яшчэ трымаюцца на ўласных нагах. Гэтым "новым" сельгаспрадпрыемствам надаюцца новыя імёны і новыя эканоміка-вытворчыя шыльды. А шмат што застаецца па-старому – тое ж камандаванне, тая ж няпэўнасць прыватніцкіх асноў, тая ж селектарная нярвовасць падчас і сяўбы, і жніва.

Увесь час у стане напружання жывуць і працуюць прыватнікі. У гэтым найменшым (крыху больш за 6 працэнтаў ад усіх працоўных у вобласці) сектары эканомікі перыядычныя штрайкі – звычайная з'ява. Штрайкі даюць, праўду сказаць, мала плёну, бо ўлада не рэагуе на патрабаванні прыватнікаў, а грамадства дэманструе да іх (як і да шмат чаго іншага – вось ці не асноўная праблема часу!) – сваю поўную абыякавасць.

Самым залашчаным афіцыйнымі газетамі і тэлебачаннем першавераснёўскім сюжэтам стала адкрыццё ў абласным цэнтры расійска-беларускага ліцэя. Між тым ніводзін карэспандэнт з гэтых СМІ не накіраваўся ў Горкі, дзе дванаццацігадовая Марылька Каралькова разам з бацькамі працягвае няроўнае змаганне з дзяржаўнай машынай за сваё правы вучыцца ў беларускай школцы. Куды там, калі ўся афіцыйная "культура" Магілёўшчыны грэбуе натуральнай задачай свайго развіцця на нацыянальным грунце. Затое, як днямі супакоіў абласную грамадскасць намеснік старшыні аблвыканкама А. Глаз, ёсць фінансавая гарантыя правядзення чарговага "Залатога шлягеру". Ды і сумесны расійска-беларускі пленэр Бялыніцкага-Бірулі, які вось толькі прайшоў на Магілёўшчыне, заахвочваў мастакоў тэмай праслаўлення ці не адзінага (усё яшчэ) *Отечества*.

...І яшчэ шмат пра якія парадоксы можна даведацца з "Тыднёвіцкай" падшыўкі. А паколькі насамрэч яе няма, дык і жыццё шмат каму падаецца іншым. Тым больш, што ўлада ў сваім уменні "ствараць уяўленне" непараўнальна больш спрактыкаваная за любую газету.

Днямі, напрыклад, у абласным цэнтры ўрачыста адчыненая пешая вуліца: адмысловыя ліхтары, брукаваная прастора, металёвыя (пад старыну) лаўкі, крамы і буцікі на першых паверхах падфарбаваных дамоў. Усё бліщчыць і зззяе! Асабліва кранаюць новенькія, блакітнага колеру шыльдачкі на новенькіх фасадах: *"улица Ленинская"*... Вось яна – маштабная, салідная і яскравая пераемнасць, стабільнасць і перспектыва. Тое, чаго прагне стомленае грамадства і што пасьлядоўна забяспечвае рашучая ўлада...

А тут вы – са сваімі "Пагонямі", "Салідарнасцямі" ды "Тыднёвікамі"...

***Генадзь СУДНІК,***
***былы рэдактар былога "Тыднёвіка Магілёўскага".***

# Старадаўняя школа Беларусі

Я і не здагадваўся, што там, дзе я нарадзіўся, адна з самых старадаўніх школ Беларусі. Але, калі пра школу прайшла інфармацыя па тэлебачанні, то вырашыў паехаць у Докшыцы, каб наведаць гэтую навучальную ўстанову. І на тое была добрая нагода.

Зрэшты, кожны чалавек мае сваю школу. Гэтак, як і мае бацькі і іх бацькі. Дык вось, родная школа маёй маці – Докшыцкая СШ № 1 імя Героя Савецкага Саюза І. С. Палявога. А яшчэ тут шмат гадоў працавалі мае бабуля і дзядуля. Я завітаў сюды падчас свята – 30 гадоў таму школа пераехала ў новы трохпавярховы будынак.

Першае, што мяне ўразіла асабліва, калі я пераступіў парог школы. Гэта незвычайная чысціня, утульнасць. Ішлі ўрокі, і паўсюль пакуль панавала цішыня. Другое, што кінулася ў вока, гэта аздабленне калідораў. На афармленых стэндах тут можна азнаёміцца з гісторыяй Докшыцкай школы № 1, разглядзець карту раёна, сучасную панараму Докшыц, пабачыць фотапартрэты слаўутых выпускнікоў школы, Герояў Савецкага Саюза з Докшыцкага раёна, прычытаць матэрыялы па краязнаўстве і інш. Мяне ветліва сустрэла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Фаіна Андрэеўна Юнцэвіч, якая і распачала экскурсію па школе. Потым я пазнаёміўся з арганізатарам па выхаваўчай працы Святланай Пятроўнай Вялічка. Яна расказала мне пра поспехі школьнай каманды КВЗ, якая сёлета заняла першае месца на раённых спаборніцтвах, а ў 2000 годзе заваявала першае месца на абласным фестывалі школьнай сатыры і гумару ў г. Віцебску.

Але галоўным гідам па школе і цікавым суразмоўцам стаў для мяне дырэктар музея імя І. С. Палявога, загадчык краязнаўчага гуртка "Спадчына", настаўнік гісторыі Дзмітры Іванавіч Грабоўскі. Ад яго я шмат даведаўся пра мінулае Докшыцкага краю. Зрабіў ён экскурс і ў гісторыю школы.

Докшыцкая школа налічвае амаль 400-гадовую гісторыю. Заснавана яна была яшчэ ў 1608 годзе жамойцкім біскупам Станіславам Кішкам.

Асноўнымі навучэнцамі з'яўляліся дзеці заможнай шляхты, бо за навучанне бралі плату. Але ў ёй ужо маглі бясплатна навучацца трое найбольш таленавітых сялянскіх дзяцей. Для забеспячэння ўсіх сваіх патрэб школа атрымала фальварак Туркі. Тая школа праіснавала да 1843 года.

Статус школы мяняўся ў залежнасці ад гістарычных абставінаў і падзей. У 1860 годзе была адчынена рускамоўная свецкая школа. Пасля таго, як Докшыцы апынуліся пад уладай буржуазнай Польшчы, навучанне дзятвы вялося па-польску. Пасля верасня 1939 года яна была ператорвана ў беларускую сямігадовую школу, якая неўзабаве павінна была стаць сярэдняй. У гады Другой сусветнай вайны "новыя гаспадары" дазволілі навучанне на роднай мове. Адразу пасля вайны школа была беларускай, выкладанне ўсіх прадметаў вялося па-беларуску. У 1948 годзе адбыўся першы выпуск Докшыцкай СШ. У 1957 годзе школа пераязджае ў новы двухпавярховы будынак, які не задавальняў патрэбы школы ў плошчы, урокі адначасова праходзілі ў невялікіх хатах. І толькі ў 1973 годзе ў эксплуатацыю быў уведзены новы трохпавярховы будынак, які даў назву вуліцы Школьнай. У савецкі час справа ішла "да адзінай мовы", інтэрнацыяналізацыя мела свой сумны вынік – нібыта "па жаданні бацькоў" школа перайшла працаваць на рускую мову. У 90-я гады школа стала зноў беларускай. Людміла Даніловіч, якая прыехала да бабулі і дзядулі з Венгрыі ў 1986 годзе (нарадзілася ў сям'і вайскоўца), пайшла вучыцца ў Докшыцкую школу. Яна вывучыла мову зямлі бацькоў настолькі выдатна, што заняла першае месца на Рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове ў 1996 годзе, прытым па набраных балах яна апярэдзіла сваіх супернікаў. Людміла Даніловіч - гонар настаўніцы-беларусаведа Ф. А. Юнцэвіч і ўсёй школы, закончыла БДУ, яна адзін з аўтараў калектыўнага зборніка беларускай паэзіі "Анталогія маладога верша" (2001). Цяпер, на жаль, па-беларуску навучаюцца адзінкавыя профільныя класы. У школе шмат дзяцей, якія з ахвотай і вялікім жаданнем вывучаюць родную мову. Докшыцкія старшакласнікі ўдзельнічаюць у раённых і абласных алімпіядах па беларускай мове, паказваюць добрыя вынікі.

Нямала вучоных і людзей мастацтва выйшла з Докшыцкай школы. У галіне фізікі і матэматыкі праславіліся Павел Апанасевіч – доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, Віктар Буракоў – доктар фізіка-матэматычных навук, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. З маладзейшага пакалення выпускнікоў свой лёс з навукай і педагагічнай дзейнасцю ў вышэйшай школе звязалі А. Андарала, дацэнт кафедры біялогіі БДПУ імя Максіма Танка, С. Махонь, дацэнт кафедры рускай мовы БДУ і інш.

Літаратурнай справай плённа займаецца Іван Стадольнік, выпускнік Докшыцкай сярэдняй школы (1959), аўтар зборнікаў апавяданняў "Хачу табе шчасця", сатыры і гумару "Як тут не смяяцца", кнігі прозы "Лістапад на пачатку лета". З Докшыц выйшаў таленавіты род мастакоў Маркаўцоў. Іх бацькі шмат гадоў аддалі школе: Пётр Віктаравіч, былы ўдзельнік вайны, выкладаў матэматыку, Соф'я Аляксандраўна працавала бібліятэкарам. Не шкадавалі душы і сэрца, як для чужых, так і сваіх дзяцей. Бацькі і школа выхоўвалі будучыя таленты. Віктар Маркавец – аўтар вядомай карціны "Свята ў Докшыцах", сябар Саюза беларускіх мастакоў. Свае настаўніцы беларускай мовы ён сказаў: "Родная мова надзвычай прыдалася ў маім жыцці". Валянціна Бартлава (Маркавец) - вядомы майстар габелену, дацэнт, загадчык кафедры мадэлявання і мастацкага ткацтва Беларускай акадэміі мастацтваў. Яна прымала ўдзел у шматлікіх выставах, як на Радзіме, так і ў замежжы. Мастачка Галіна Крываблоцкая (Маркавец) таксама дасягнула значнага творчага плёну. Яе габелены ўпрыгожваюць шэраг залаў у Беларусі і на Украіне, творы яе знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, Беларускім музеі гісторыі і культуры, Музеі прыкладнога мастацтва ў Маскве, а таксама музеях Польшчы, ЗША, Германіі і інш.

Яшчэ я даведаўся, што ў 1998 годзе адбыўся 50-ты выпуск сярэдняй школы. Настаўніцкі калектыў вельмі вялікі: у ім працуе 75 настаўнікаў. Цяпер у школе навучаецца больш за 920 вучняў. З году ў год шмат выпускнікоў паступае ў ВНУ, тэхнікумы і каледжы, у тым ліку і на філалагічныя факультэты педуніверсітэтаў і БДУ.

З 1964 года на базе школы пачаў дзейнічаць музей імя Героя Савецкага Саюза І. С. Палявога. Ідэя яго стварэння належыць тагачаснаму дырэктару У.Ф. Парулю. Матэрыялы збіралі настаўнікі і вучні, а над яго афармленнем працавалі народныя майстры і мастакі А. Вішнеўскі, С. Крукаў, І. Плыгаўка, Г. Шымановіч. У музеі сабрана 320 экспанатаў асноўнага фонду, размешчаны шэраг экспазіцый: "Жыццё і подзвіг І. С. Палявога", "Іх праца адзначана высокімі ўзнагародамі", "Наш раён", "Докшыцы раней і цяпер", "Трагічна абарваны лёс", "Старонкі гісторыі г. Докшыцы і школы". Ёсць тут цікавыя і нават рэдкія экспанаты: кавалкі ад самалёта Палявога, зброя, фотаздымкі часоў Айчыннай вайны 1941-1945 і інш.

У Докшыцкай СШ № 1 доўгі час працавалі мае бабуля і дзядуля – Ірына Васілеўна і Уладзімір Андрэевіч Здзесевы. Бабуля каля 30-ці гадоў выкладала беларускую мову і літаратуру. Яна вывучыла не адно пакаленне дакшычан, многія з якіх (каля 30-ці чалавек!) цяпер ужо самі працуюць настаўнікамі ў Докшыцкай школе. Падчас святкавання 30-годдзя будынка школы ёй уручылі пасведчанне ганаровага настаўніка 1973 года выпуску СШ № 1. Мне было ўсцешна і прыемна хадзіць па класах, у якія шмат гадоў заходзілі мае бабуля і дзядуля, сеялі тут добрае, разумнае, вечнае. Я лічу сябе таксама вучнем бабулі, бо яна мяне гадавала, прывіла мне любоў да тутэйшых мясцін, роднай мовы, абудзіла цікавасць да зямлі, дзе я нарадзіўся. Дзядуля працаваў на ніве адукацыі больш 25-ці гадоў. Ён вучыў мясцовую моладзь гісторыі, а яшчэ кіраваў матацыклетным гуртком, выкладаў шафёрскую справу. Былыя вучні не забываюць сваіх настаўнікаў, пры сустрэчах яны разам згадваюць школьныя гады. У школе дзядулю і бабулю бываюць часта, добра ведаюць, чым жыве школа, што хвалюе сённяшніх педагогаў. Настаўнікі заўсёды запрашаюць сваіх ветэранаў адукацыі на розныя святы, урачыстасці і іншыя мерапрыемствы.

Калі я ад'язджаў з Докшыц, то нейкае невыказнае пачуццё радасці, цеплыні не пакідала мяне. Надоўга ў памяці застануцца сустрэчы і гутаркі з настаўнікамі і вучнямі школы, без якой наўрад ці можна ўявіць жыццё гэтага ціхага гарадка, атуленага густымі лясамі.

*Яўген Бельскі,*
*навучэнец ІУ курса*
*Нацыянальнага*
*гуманітарнага ліцэя імя*
*Якуба Коласа, г. Менск.*

## Фальклорныя здабыткі з падслуханага, убачанага Міколам Котавым на старажытнай Тураўскай зямлі

Калі туравец гаворыць сур'ёзна і без усмешкі – гэта не азначае, што ён кажа праўду.

*

Сядзяць на лаўцы ля хаты два пажылыя тураўцы, адзін усё расказвае і расказвае, а другі маўчыць, нібы не чуе. Першаму надакучыла, ён і кажа: "Ох, які ты разумны Фядося, мелеш і сам не ведаеш што. Не лічы сябе вялікай свіннёй, а кагосьць маленькім парсюком, усё ён ведае дзяляга".

*

Жонка сварыцца на мужыка п'янага. Той маўчыць, бо ўжо не можа адказаць, а жонка: "Каб табе пацукі пальцы паадгрызалі, як ты падлюка слізнявая, п'еш, каб цябе п'яўкі пілі з тваёю п'янкаю, даўбешка ты мурзатая, а што ж я есці буду?" Тут мужык падымае галаву і мямліць: "А ты, Ма-ма-Маруся, еш апілкі, бо я раблю на лесапілкі". (Ён на самой справе рабіў у лесапілавальным цэху на прамкамбінаце ў Тураве.)

*

Завітаў з вёскі Пагост у тураўскую майстэрню па тэлевізарах, дзядок, развязаў пасцілку. Майстар пытае:

- Што там з тваім корам дапатопным здарылася?

- А ліха яго ведае, гаварыць, гаворыць, а вось сабражэння няма.

*

Стаяць сярод вуліцы дзве маладзіцы, размаўляюць. Адна пакруціла носам туды-сюды і кажа:

- Во! Дзесьці свінчака смаляць!

Другая таксама носам круць, круць.

- Які там свінчак?! - гаворыць тая. - Хіба Рыгор падгадаваць выцерпіць? Тое парася з пяцельку! У мяне кот большы. А ён жа, абы выхваліцца, смаліць яго, каб толькі пах на ўвесь Тураў ішоў!

*

- Ты бач, Насця, гэты хваенскі заблуда прысмактаўся да Волькі Белькавай, як п'яўка тая. Ай вось пап'е трохі, ад'есца, як кабан, нагадуе здору на жывот, калі хочаш, Вольку яшчэ за космы пацягае, дый толькі бачылі яго. Яшчэ дурніцу знойдзе, хіба мала!

### Кавалер

Усе ў Тураве ведаюць Рундзеля – немаладога, сівога халасцяка, які, тым не менш, не пройдзе, каб не зачапіць кожную маладзіцу. Мясцовыя жанчыны толькі смяяліся з дзівацтваў "Кавалера".

Кінастудыя "Беларусьфільм" здымала ў Тураве двухсерыйную мастацкую стужку "Паводка" (рэж. В. П. Чацверыкоў). У адной з галоўных роляў здымалася Народная артыстка Беларусі Галіна Кляменцеўна Макарава. Жылі ўсе артысты на параходзе, ля тураўскага прычала. Калі Макарава выйшла на здымкі, апранутая па-вясковаму, наш Рундзель тут, як тут, падскочыў да яе:

- Ого! Новая... Нішто сабе... Чаму цябе не ведаю? Як завуць цябе, харашуха? З якой вёскі? Мо зойдзеш да мяне, я тут недалечка жыву.

- Што ж, можна, - адказала Галіна Кляменцеўна, - толькі пазней, як сцямнее. А ты сена накасіў?

- А навошта сена? – здзівіўся Рундзель.

- А я люблю з мужчынамі на вышках, на сене!

Рундзель ад нечаканасці зусім абмяк:

- Ой, я пляшку вазьму, а што, ты есці любіш?

Абрадаваны, вясёлы, круцячы сваёю белай галавой, ён пабег рыхтавацца.

Калі ў тураўскім Доме культуры адбывалася сустрэча з артыстамі і прэм'ера фільма, Г. К. Макарава нагадала, як да яе "клеіўся" сівы мужчына.

- А хто гэта быў, - кажа, - не ведаю.

Уся зала павярнулася ў той бок, дзе сядзеў сівы Рундзель, ды пачаўся такі смех, што зала хадуном хадзіла. А Макарава да яго:

- Ці не выпіў гарэлку, ці не з'еў каўбасы, пальцам піханыя: я гатова ісці.

Рундзель зноў моцна закруціў галавою, таксама пачаў смяяцца разам з усімі.

*Мікола Котаў.*





# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*Шаноўныя спадар Трусаў і спадарыня Дзіцэвіч!*

*Высылаю да Вас мой манускрыпт пад назовам "Успаміны Міхаіла Швэдзюка". Залучаю таксама фотаздымкі, мапкі (карты) і г. д., калі Вы ўважаеце, што яны вартасныя, каб замясціць іх у Вашай газеце, дык Вы маеце мой дазвол гэта рабіць. Я добра разумею, што "Ўспаміны" патрабуюць "ашліфоўкі" з стылістычнага, сінктаксічнага і арфаграфічнага пунктаў; прашу Вас гэта зрабіць, афармліць.*

*Ці мае ўспаміны надрукаваць ў "Нашым слове", ці ў "Новым часе" пакідаю для Вас. Вы лепей ведаеце гэтыя газеты і чытачоў. Натуральна, што лепей надрукаваць у той газеце, якая ёсць больш пашыраная сярод чытачоў.*

*Хацеў бы тут даць малыя тлумачэнні:*

*1. Высылаю 10 мап (карт), на якіх я накінуў нашыя змушаныя вандроўкі. На абароце я іх пазначыў нумарамі як 1. 2. 3. і г. д.*

*У тэксце манускрыпта я напісаў, дзе замясціць гэтыя мапы. А можа лепей будзе змясціць усе мапы разам, на канцы ўспамінаў? Рабіце, як уважаеце, і каб было ясней для чытачоў.*

*2. Высылаю 14 фотаздымкаў. На абароце кожнага фота я даў кароткае апісанне, каго і што ён прадстаўляе і нумары як 1. 2. і г. д., у тэксце я напісаў, дзе замясціць гэтыя фота.*

*Калі пастановіце надрукаваць успаміны, дык прашу Вас, ужо пасля надрукавання,*

*- пераслаць назад да мяне мой манускрыпт і фота цераз кагось, хто будзе ехаць да Англіі. Лепей поштай не высылаць, каб не загінулі;*

*- буду вельмі ўдзячны, калі перашлеце да мяне ўсе нумары той газеты, дзе будуць змешчаны мае ўспаміны. Натуральна, што тыя нумары газеты можаце пераслаць разам з манускрыптам і фотаздымкамі.*

*Па прачытанні манускрыпта можа штосьць падасца не зусім ясным для Вас. Дык прашу напісаць да мяне пра гэта.*

*Загадзя дзякую Вам.*

*З пашанай – М. Швэдзюк.*

Я, Міхаіл Швэдзюк, нарадзіўся 4-га лістапада 1926 года ў вёсцы Патапавічы Янаўскага раёна, Берасцейскай вобласці. Бацькамі былі Сава Канстанцінавіч і Марыя Конанаўна, дзявочае прозвішча Гардзяйчук, родам з суседняй вёскі Яечкавічы, Янаўскага раёна.

Хоць да вайны ў 1939 годзе нашае прозвішча пісалася Швэдзюк, на вёсцы нашу сям'ю і ўвесь наш род называлі Швэдамі. На маёй метрыцы ёсць прозвішча Швэд.

Чаму нас называлі Швэдамі, як паўстала прозвішча Швэд і як змянілася з Швэд на Швэдзюк ёсць розныя версіі.

Бясспрэчным фактам ёсць, што нашыя продкі альбо прыехалі з Швецыі альбо з нагоды розных войнаў Швецыі з Рэччу Паспалітай ці Расеяй як ваеннапалонныя апынуліся на Беларусі і засталіся на сталае жыццё на Палессі. Дзеля таго, што гэтыя людзі былі з Швецыі, мясцовыя жыхары на Палессі пачалі называць іх шведамі. Гэта ёсць зусім лагічнае і зразумелае. А з часам нацыянальнасць швед ператварылася ў прозвішча Швэд.

А якое было праўдзівае і арыгінальнае шведскае прозвішча, я не ведаю. Жывучы за мяжой (у Англіі) і не маючы доступу да архіўных і метрычных кнігаў, цяжка мне цяпер устанавіць першапачатковае шведскае прозвішча.

Як і калі змянілася прозвішча Швэд на Швэдзюк таксама дакладна не ведаю. Аднак у нашай сям'і былі размовы на гэтую тэму.

Паводле адной версіі, адзін з маіх продкаў служыў у царскай арміі і, натуральна, з празвішчам Швэд. А ў той час Расея была варожа настаўлена да Швецыі і шведаў, і майму продку-салдату служба ў такіх абставінах не была зайздросная. Дык майму продку-салдату "парадзілі" змяніць прозвішча Швэд. Дзеля таго, што на паўдзённым і заходнім Палессі многа прозвішчаў маюць канцоўку "ук" то мой продак пачаў пісацца Швэдзюк.

### ПАТАПАВІЧЫ 1921-1939 гг.

Патапавічы, мая родная вёска, ў Янаўскім раёне на Палессі. Вёска старая. Успамінаецца, між іншым, Пінскім і Кобрынскім старастам Лаўрыёнам Войнаю ў яго кніжцы пад назовам "Пісцовая кніга былога Пінскага староства, зробленая па прывілею караля Зыгмунта Аўгуста ў 1561-1566 гадах".

Кніга была напісана на польскай мове. У 1874 годзе кніга была перавыдадзена ў Вільні на арыгінальнай польскай мове і, паралельна, з расейскім перакладам. Пераклад у некаторых месцах не ёсць дасканалы.

У кніжцы ўспамінаецца, што ў сяле Патапавічах было два двары: Патапаўскае і Пучатоўскае. Вёска Патапавічы існуе па сягонняшні дзень, а Пучатовічы зніклі з гісторыі і людской памяці. Варта тут зазначыць, што многа назоваў лясоў, лугоў, сенакосаў, балотаў, палёў і г. д. якія ўспамінаюцца ў вышэй памянутай кніжцы, захаваліся з такімі ж назовамі па сягонняшні дзень.

Патапавічы паложаны маляўніча на правым баку ракі Піна ў 30 км. на захад ад Пінска. Паміж 1921-1939 гадамі вёска была пад Польшчай. На поўдзень ад Патапавіч разлягаўся дрымучы сасновы лес, які належаў да маёнтка графа Пуслаўскага. Сядзібай маёнтка было Завішча, у сярэдзіне лясоў, над прыгожым возерам, за сем кіламетрах на поўдзень ад Патапавіч. Суседнімі вёскамі былі Кончыцы, Людынавічы, Хамычава, Яечкавічы, Перахрэсце і Семяховічы.

Патапавічы былі на 100% беларускай, праваслаўнай вёскай. Праўда, да вайны ў 1939 годзе, да вёскі пачалі прыязджаць розныя пратэстанцкія рэлігійныя секты, як баптысты, штундыты, пяцідзесятнікі. Але ахвочых людзей пераходзіць з праваслаўя ў розныя секты было вельмі мала. У вёсцы былі таксама дзве габрэйскія сям'і (Эпельман). Адзін габрэй меў сваю краму. Паміж патапаўцамі (так нас, ураджэнцаў Патапавіч называлі) і габрэямі не было ніякіх непаразуменняў.

У вёсцы была свая царква драўляная, зробленая перад Першай сусветнай вайной. На вялікія святы, пару разоў у год, прыязджаў святар з вёскі Дубое, дзе была прыходская царква. Між іншым, царква ў Дубое пад назовам Нараджэння Багародзіцы, была мураваная і пабудаваная ў 1811 годзе, гэта значыць, за ўніяцкімі часамі. Былі чуткі перад вайной (1939 г), што палякі-католікі хацелі забраць сябе гэтую колішнюю ўніяцкую, а цапер праваслаўную, царкву.

Да 1939 г. настаяцелем у Дубайскай царкве быў савятар Рашотка. Нямала мук і цярпенняў прыйшлося яму перанесці ў тым жахлівым 1939 годзе.

У дваццатых гадах мінулага стагоддзя польскія ўлады залажылі ў Патапавічах польскую пачатковую школу. Называлася яна "школа паўшэхна" г. зн. усеагульная школа. Была гэта чатырохкласная школа. Паводле польскага права да школы трэба было хадзіць абавязкова, пачынаючы ў сем гадоў, і хадзіць сем гадоў. Дзеля таго, што школа была чатырокласная, каб выканаць сямігадовую вучобу, трэба было хадзіць два гады да трэцяга класа і тры гады да чыцвёртага класа.

Перад 1939 годам была свая собская школа (перад тым вучыліся ў прыватных дамах, найперш у Калодзіча, а потым у Сяргея Кананчука). Астатнімі польскімі настаўнікамі былі суровы Уздэбскі і лагодная Марыя Чашэйка-Сахацкая.

Усе прадметы вяліся на польскай мове. Беларускай мовы, нават, як прадмета, не было.

З вёскі Дубое прыязджаў псаломшчык Аляксандр Цырылькевіч, каб даваць навуку Божага Закону, вучыць малітвы, трапары і г. д. Трэба тут успомніць, што дзеля таго, што дзеці-школьнікі не ведалі ані кірыліцы, ані старославянскага алфавітаў, царкоўныя ўлады пастараліся, каб праваслаўныя малітоўнікі былі надрукаваныя польскім алфавітам і правапісам, на старославянскай мове.

Ужо па вайне чуў, што сям'я А. Цырылькевіча ў 1944 годзе ўцякла на Захад, перад прыходам Чырвонай Арміі. Па дарозе ў Польшчы трагічна загінуў А. Цырылькевіч, а яго жонка (настаўніца) і дзеці засталіся жыць у Польшчы. Праўдападобна ў Гданьску.

Усе жыхары вёскі былі хлебаробамі. Эканамічна былі амаль самастойнымі, незалежнымі ад навакольнага асяроддзя. Мелі сваю жывёлу (конь, каровы, свінні, авечкі, куры, качкі і т. п.), зямлю абраблялі плугам ці бараной пры дапамозе каня. Угнаенне зямлі адбывалася натуральным гноем; пра штучныя ці хімічныя угнаенні ніхто не чуў. Збожжа, пераважна жыта, малацілі цапамі. Зерне вазілі малоць на муку да паблізкіх млыноў. Да таго ў вёсцы было некалькі ветраных млыноў.

Дамы былі з дрэва. Абагравалі дрывамі. Печы, у якіх пяклі свой хлеб і варылі яду таксама апальвалі дрывамі. Зімой, ў доўгія, цёмныя вечары, пакоі асвятлялі лямпамі з газай (нафтай) альбо лучынай.

Зімой дзяўчаты збіраліся па калейцы ў розных дамах каб прасці ніткі з кудзелі (льну, воўны). Потым з гэтых нітак ткалі розную тканіну (палатно, ручнікі) на сваіх драўляных кроснах. Часта тканіны былі зроблены ў прыгожыя, разнастайныя колеры.

З ільнянога палатна самі шылі кажулі, сарочкі, прасціны і д. п. Шылі альбо ўручную альбо на швейных машынах. Дзеля прыгажосці кашулі і блюзкі яшчэ і вышывалі.

Шкуры з авечак абраблялі ў грабарнях. Потым шылі кажухі. Часта бывала, што шыццём кажухоў займаліся мясцовы ці прыезджыя габрэйскія краўцы.

Вясной з лазы здзіралі лыка, каб потым плесці пасталы, у якіх хадзілі пераважна зімой.

Людзі мелі агароды, сады. У садах былі грушы, яблыні, сліўкі, вішні, чарэшні.

У рацэ Піна і паблізкіх азерцах ("старыках") лавілі рыбу альбо сеткамі, альбо невадамі, альбо жакамі. Вудачкамі ніхто не лавіў рыбу.

У паблізкім маёнтку Завішча людзі куплялі дрэва для пабудовы дамоў, хлявоў і для апалу.

Сенакосы мелі пераважна свае, але часта трэба было дакупляць сена.

Дык хоць людзі былі эканамічна амаль незалежнымі, грошы ўсё такі трэба было мець на розныя закупкі тавараў. У маёнтку Завішча былі ад часу да часу сезонныя работы, дзе можна было зарабіць трохі грошай. За працу плацілі, прыблізна, тры злотых на дзень. Але, пераважна, фінансы (грошы) здабывалі продажам жывёлы на кірмашах ў Пінску ці Янаве.

Многа людзей у пошуках лепшага жыцця і долі эмігравала да Аргенціны, Бразіліі, Парагвая, Урагвая, Канады, ЗША ды і да іншых краёў.

І так людзі жылі спакойна, богабаязна. Не сварыліся, не пілі самагонкі, не біліся, не зайздросцілі, не палітыкавалі. У хатах дзвярэй ніколі не замыкалі, ані ў дзень, ані ў начы. Забойствы людзей былі рэдкімі. Працавалі ўсе: маладыя, і старыя, і дзеці ад рана да вечара. Працавалі цяжка. Толькі зімой было трохі лягчэй бо было на многа менш працы. Жылі не багата, але і мала хто быў без хлеба. Многа залежала ад асабістых сямейных абставін, ад колькасці і якасці зямлі і сенакосаў і, у канцы, ад саміх людзей г. зн., ці былі яны працавітымі, ці гультаяватымі, як усюды ў свеце. Гэта ж бачыў і ў СССР, і тут, на Захадзе.

Бяда была з недахопам працы для заработкаў. Бяда была таксама з адсутасцю рэальнай зямельнай рэформы. Бацькі дзялілі свае землі паміж сваімі дзецьмі. А іхнія дзеці дзялілі свае часткі зямлі паміж сваімі дзецьмі і г. д. Загоны займалі вялікую частку зямлі. Не трэба быць эканомам, каб прадбачыць, што такая сістэма падзелу зямлі давядзе да таго, што ў хуткім часе не будзе чаго дзяліць.

Дзеля паўнаты варта ўспомніць, што перад вайной ў 1939 годзе польскі ўрад пачаў рабіць так званае "сцаленне грунтаў" г. зн. злучванне зямельных участкаў, рабіць хутары. Хадзіла тут аб тым, каб уся зямля гаспадара была ў адным месцы, каля хаты. Але людзі не хацелі пакідаць вёску і жыць на хутарах, у "адзіноцтве".

Ды такая "зямельная рэформа" не давала людзям больш зямлі. З часам з аднаго хутара паўстала б два, тры ці і больш хутароў. Але вайна перарвала і гэтыя эксперымент.

*(Працяг у наст. нумары.)*



**План вёскі Патапавічы ў 1934 годзе. Без маштабу**

**Мікола Вяршынін**

# Давайце смяяцца па-беларуску

### НА ПАРУКІ
(фельетон)

Ён вельмі многа выпіваў
І дэбашырыў, бушаваў.
Такая буйная натура,
Якая там ужо культура!

Кіно, тэатр або канцэрт?
З грашыма ён любіў канверт.
Закочваў сам канцэрты часта
Ад перапояў і гультайства.

І дзе папала начаваў
Пасля "вясёлых" гэтых спраў.
Ў міліцыю трапляў, вядома,
Там адчуваў сябе, як дома.

На працы бачаць: прападзе!
А выйсце адшукаць ім дзе?
Каб абмінулі хлопца мукі,
Узяць рашылі на парукі.

А той па-свойму зразумеў
(Знайсці ва ўсім выгоду ўмеў):
- За шэфства шчырае вам дзякуй.
- Ну, што ж, ратуйце небараку.

Маіх вось грошай не стае –
Купляйце пляшкі за свае.
А я – не нейкі там прыблуда,
Штодзень піць толькі дома буду.

І на канцэрты я пайду,
Там разганю сваю нуду.
Білет не ляжа цяжкім грузам –
Вазьміце грошы з прафсаюза.

І зберагу сваю сям'ю,
Нягледзячы, што добра п'ю.
І сам не буду я нервовы,
Бо калектыў у нас здаровы.

А выправіцца я гатоў –
Пашэфствуйце пабольш гадоў.

* * *

У клопатах абцягнеш рукі,
Такога ўзяўшы на парукі.

### ПРА ГАНАРЫСТАГА ХВЯДОСА
(фельетон)

Хвядос Пятровіч на пасадзе
Начальнікам калісьці быў.
З людзьмі ніколі ён не ладзіў,
Адносін простых не любіў.

Не раз за дзень збярэ нараду
І там змарнуе доўгі час.
Шмат што падказваць кожны рады,
А ён: - Сам вырашу, без вас.

Здаралася, зайсці хто хоча –
Пытанне вырашыць як след.
Дык ён і не зірне у вочы:
- Такіх, як вы, тут цэлы свет.

А калі сябар скажа: - Федзя,
Вітаю, як ты жыў – здароў?
Адкажа: - Бачыў я вас недзе,
Для вас, таварыш, я – Пятроў.

Хвядос Пятровіч я, адзіны,
Для вас не сябар і не госць.
І ведаць вы заўжды павінны:
Субардынацыя ў нас ёсць...

Яму было так нечакана:
З пасады раптам ён зляцеў.
Хоць ганарысты быў начальнік,
Пайшоў ніжэй, чым сам хацеў.

Ужо інакш ён зараз лічыць,
Не задзірае ўгору нос.
І кожнаму дабра ўсё зычыць:
- Ты проста кліч мяне – Хвядос.

І анекдот прытым раскажа,
І кожны можа з ім на "ты".
Да слоўца слоўца спрытна вяжа.
Адкуль так многа прастаты?

Такі начальнік шкоды многа
Наробіць – варта пазяхнуць.
Як глыбу мышыстую, з дарогі
Яго найлепш хутчэй спіхнуць.

### РОЗНЫ ВЫНІК
(фельетон)

Разам двое хлопцаў падрасталі,
Побач гадаваліся яны.
Рознымі аднак чамусьці сталі,
Хоць умовы ў іх былі адны.

Кемлівы Кастусь заусёды з кніжкай,
Да работы змалку прывыкаў.
Сябраваў Алесь з вялікай лыжкай,
І дарогі лёгкія шукаў.

Не баяўся быць Кастусь, дзе цяжка,
Шмат каму дапамагчы ён рад.
А Алесь прыкладваўся да пляшкі,
І штовечар гойсаў да дзяўчат.

Быў Кастусь заўжды ва ўсім гарачы,
І жыццё наўкол яго гуло.
А Алесь – лайдак, што свет не бачыў,
З ложка не падняць ніяк было.

Сем'янін Кастусь зайздросціць трэба:
І дзяцей, і ўнукаў прычакаў.
Зоркі усё лічыў Алесь на небе,
І на лёс уласны наракаў.

Важных спраў
звярнуць Кастусь змог горы,
Бо ўпіраўся ўсюды ён плячом.
Ды Алесь вось многіх аб'ягорыў,
Радасць не прынёс аднак у дом.

Той Кастусь і зараз поўны сілы,
Дужым будзе шмат гадоў яшчэ.
Згорбіўся Алесь, зрабіўся хілы,
Збэсціўся, ледзь ногі валачэ.

Шчыраваў адзін, другі не гнуўся,
А жыццё ж удалячынь імчыць!
Хто з іх да чаго ўвесь час імкнуўся –
Вынік зараз можна падлічыць.

### АБ НАКЛЕЙКАХ І СЛУПАХ
(гумарэска)

Я цэлы свет наклічу сведак,
Ну, што я дрэннага зрабіў?
Прадстаўлю сотню вам даведак,
Што я зусім цвярозым быў.

Гарачыня – аж невыносна,
Я ехаў сёння не адзін.
Быў з сябрам я. Нам стала млосна,
І я забег у магазін.

І хіба можна тут здзівіцца?
Вады бутэльку я купіў,
А на наклейцы – від сталіцы,
Вась гэтую ваду і піў.

З таварышам даўно сябрую,
Жыць без яго я не прывык,
Вады бутэльку зноў бяру я,
Глядзіць з яе упарты бык.

Пот прабіваць нас стаў да ніткі,
Няёмка стала й сябруку,
Узяў і ён бутэль напітку,
З чырвоным перцам на баку.

Сіл у сабе адчуў я многа.
Машына узяла разбег.
Ды нечакана мне дарогу
Слуп тэлеграфны перабег.

Другі бяжыць – крукі, як рогі,
І ў правадах нудотны спеў.
Пабег і трэці. Ды дарогі
Ён перабегчы не паспеў.

Слуп сам пад колы мне папаўся.
І з-за яго ў мяне – прастой.
Дык хай бы з месца не зрываўся:
Не знаеш правіл руху – стой!

### ДОЛЯ ГУЛЬТА
(гумарэска)

Ідзе запрашэнне ад бацькі:
- Прыедзь, сынку, сена накосіш,
Пара гаспадаркай заняцца,
І мяса ж кумпяк добры просіш.

Працуй сам, не будзь дармаедам,
Парэзаць яшчэ трэба дровы,
А той у адказ: - Не, не прыеду,
Здаецца мне – я нездаровы.

Пісьмо бацька зноў піша ў горад
Далёкаму роднаму сыну:
- Калю парсюка, дык не гора,
Прыедзь і вазьмі свежаніну.

І швайка заточана востра,
І ёсць чым смаліць – калі ласка.
Прыедуць браты твае, сёстры.
І ты паспяшайся, Міхаська.

А вось пісьмо бацьку ад сына:
- Начальнік я, вельмі заняты.
Шмат часу займае й машына,
Я аўтааматар заўзяты,

Вы ўжо без мяне закаліце,
Са смакам з'ямо ўсё мы ўзімку.
А мне "задні мост" лепш пакіньце,
"Паддон" шчэ – намёк на грудзінку.

Зноў бацька свой ліст піша сыну:
- Даўно парсюка разабралі
Табе не многа пакінуў,
У кубел паклаў вельмі мала.

Выкручвацца добры ты майстар,
Ды справу прайграў вось якую,
Ты можаш узяць за гультайства
"Кардан" і "трубу выхлапную".

### Фінал
(фельетон)

Я часта бачу гэты дом.
Даўней ён шумны быў.
Калісь там жыў стары Арцём,
Што выпіць "не любіў".

Бывала, ў чайнай пяць рублёў
Ён праз плячо шыбне
І скажа: – Ворагам назло
Налі сто грамаў мне!

Пачырванеўшы, нібы рак,
Ён закусь пажуе,
Пакрывіцца і кажа так:
- Хто гэту гадасць п'е?

Часамі ля люстэрка ён
Адзін піў, без сяброў.
І тост меў: - Будзь здароў, Арцём!
Арцёмка, будзь здароў!

А выпіць не даюць дарма.
Каб весела так жыць,
Ён браў, ашукваў, падымаў,
Дзе дрэнна што мяжыць.

З наўкольных вёсак доўгі час
Яго ганяў народ.
І біты быў Арцём не раз,
Як памаўзлівы кот.

Сканаў ён вечарам адным,
І быў фінал такі:
Гарэлкі пляшку разам з ім
Паклалі сваякі.

Бо не пакласці не маглі,
Не спалася б яму.
Устаў тады б Арцём з зямлі,
Труну б перавярнуў.

Нябожчык быў не дзед, а зух,
Адкуль ты ні вазьмі.
І з тых часоў усіх п'янчуг
Арцёмам звалі мы.

Няма Арцёма, і таму
Даўно ўжо ціхі дом.
Ды пакланяецца яму
Шчэ не адзін Арцём.

### ТРЫЦЦАЦІГАДОВЫ ХАЛАСЦЯК

Не райце толькі, людцы, мне жаніцца,
Бо для дзяўчат немалады ўжо я.
Не падабаюцца і маладзіцы.
Ўсё ж аднаму вальготней удвая.

Апрануі я, як бачыце, няблага,
Пра гаспадарку дбаць не трэба мне.
І да кахання я не маю прагі:
Не грэбуюць дзяўчаты мною, не.

Але усё цяжэй мне год ад году,
І кідаюся ўжо ва ўсе бакі:
Мне не даюць знаёмыя праходу,
Не адстаюць ад іх і сваякі.

Як толькі хто спаткаецца са мною,
Дык іншых слоў не маюць да мяне,
Хоць з імі і не бачыўся даўно я:
- Дакладвай: ажаніўся ўжо, ці не?

Што адказаць магу на тыя словы,
Як павярнуць падзей злавесны ход?
І лічаць, што я хлопец неталковы,
Калі не ажаніўся ў столькі год.

І кпяць сябры часамі непрыстойна:
- Ты б не перабіраў нявест, браток.
Табе не ажаніцца самастойна,
Калі пайшоў трыццаты ўжо гадок.

Ажэнішся ж пад старасць –
дзе тут дзецца,
Калі у маладосці не сумеў,
І будуць за табою бегаць дзеці -
За бацькам, ці за дзедам – зразумей.

Даволі! Згодзем. Як жа прыступіцца?
А мо і лепш, як ёсць сям'я свая.
Дык што, вы ўсё ж мне раіце жаніцца?
Тады бягу шукаць нявесту я.

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 09. 2003 г.
Наклад 1800 асобнікаў. Замова № 2110.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
Кошт у розніцу: 175 руб. (у Менску - 185 руб.)